6 05

# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК

## ГАЛОЎНАЕ Ў НУМАРЫ:



ЖНІВЕНЬ 1935 г. 14-15

Журнал ЦК КП(б)Б

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Звязда"

# ЗМЕСТ



Менск, друкарня „Звязды“. Здана ў набор 27-VII—35 г. Падпісана да друку 12-VIII—г.
Уп. Галоўлітбела №—2915. Тыраж 1.135 экз. 2 з пал. друк. арк. У арк. 75.000 зн.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

ліпень—жнівень 1935 г. № 14-15 (39)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц.

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва: МЕНСК, Совецкая, 63



# Прыём у Крэмлі работнікаў чыгуначнага транспарта



Пасля адбываўшайся 25—29 ліпеня нарады работнікаў чыгуначнага транспарта, скліканай НКШЗ па даручэнню ЦК ВКП(б) і Соўнаркома СССР і абмеркаваўшай пытанні паляпшэння скарыстання паравозаў і ўстанаўлення цвёрдага графіка і раскладаў руху таварных паяздоў, кіраўнікі Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і ўрада СССР прынялі для таварыскай гутаркі ўдзельнікаў нарады і работнікаў маскоўскага чыгуначнага вузла.

Прыём адбыўся 30-га ліпеня, у 8 гадзін вечара, у залах Вялікага крэмлёўскага палаца. На прыёме прысутнічала каля 400 работнікаў чыгуначнага транспарта—начальнікаў дарог, палітаддзелаў, служб паравозных і эксплаатацыі, аддзяленняў эксплаатацыі, паравозных дэпо, станцый, машыністаў, рамонтных рабочых, кандуктароў, дыспетчэраў і інш.

У 8 гадзін вечара тт. **Сталін, Кагановіч, Орджанікідзе, Варашылаў, Чубар, Калінін, Мікаян, Анціпаў, Межлаўк** і другія наркомы і кіраўнікі совецкіх і партыйных арганізацый з'яўляюцца ў Георгіеўскім зале і праходзяць пад бясконцыя авацыі прысутных.

Народны камісар транспарта тав. **Л. М. Кагановіч** сваё першае слова прывітання зварачае да таго, «хто любач з кіраўніцтвам вялікай барацьбой за соцыялізм умее саграваць цеплатой свайго вялікага сэрца і нас, транспартнікаў, і ўсіх працоўных нашай краіны, да

першага машыніста Совецкага Саюза любімага і вялікага Іосіфа Вісарыёнавіча **СТАЛІНА**».

Бурнымі авацыямі, воклічамі «Няхай жыве наш родны **Сталін**» адказваюць прысутныя на першае слова наркома.

Далей тав. Кагановіч гаворыць:

— Маркс пісаў у «Класавай барацьбе ва Францыі», што «рэволюцыі — гэта лакаматывы гісторыі». Па графіку Маркса лакаматыў гісторыі паставілі на рэйкі і павялі наперад Ленін і Сталін. Ворагі рэволюцыі прарочылі нашаму лакаматыву аварыі, палохалі цяжкім профілем пуці, крутымі спускамі і труднымі пад'ёмамі. Але мы здолелі правесці лакаматыў рэволюцыі праз усе спускі і пад'ёмы, праз усе павароты і крывыя таму, што ў нас былі вялікія машыністы, умеўшыя весці лакаматыў гісторыі. Мы перамаглі таму, што ў спаранай брыгадзе нашага лакаматыва машыністамі былі вялікія **Ленін і Сталін. (Бурныя апладысменты).**

Машыніст рэволюцыі ўважліва сачыў за тым, каб на шляху не было перакосаў управа і ўлева. Ён выкідаў гнілыя шпалы і нягодныя рэйкі — правых і «левых» апартуністаў і трацкістаў, вызваляў пуць ад усякіх перашкод, выпраўляў землянсе палатно, ліквідаваў баласныя карыты. Машыніст вялікага лакаматыва павёў наш лакаматыў без аварый і крушэнняў да станцыі назначэння, да пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. **(Бурныя авацыі).**

Вялікая бяда чыгуначнікаў — разрывы паяздоў. Яны бываюць ад няўмелага кіравання, ад дрэннага тармажэння, ад няправільнага спуску, асабліва на паваротах, на крывых. Наш вялікі машыніст — **Сталін** умее весці поезд без штуршкоў і разрываў, без выціскання вагонаў, спакойна, упэўнена праводзячы яго на крывых, на паваротах.

Машыніст соцыялістычнага будаўніцтва — **Сталін** цвёрда вывучыў і вельмі добра ведае, не ў прыклад многім нашым машыністам, цягавыя разлікі свайго непераможнага лакаматыва, ведае сілы супраціўлення ад «штуршкоў на стыках», сілы супраціўлення «паветранага асяроддзя». Ён удакладняў і развіваў гэтыя разлікі, даныя Марксам, Энгельсам і Леніным, і не дапускаў разрываў поезда, забяспечваючы сапраўдную моцную сцэпку «вагонаў» розных канструкцыі, розных грузапад'ёмнасці, «вагонаў» пролетарскага горада і совецкай вёскі. Тым самым ён забяспечыў непарушны саюз рабочага класа і працоўнага сялянства. **(Бурныя апладысменты).**

Наш машыніст правільна набіраў і набірае скорасць, разгон, каб узяць трудныя пад'ёмы.

Ён асцярожна вёў і вядзе поезд соцыялістычнага будаўніцтва на крутых спусках і забяспечыў, у адрозненне ад куль ад нас, чыгуначнікаў, безаварыйнае прасоўванне поезда.

Пры гэтым фарсіроўка катла, тэхнічная і ўчастковая скорасць лакаматыва рэволюцыі куды вышэй нашай чыгуначнай. **(Ажыўленне ў зале).** Машыніст нашага вялікага лакаматыва не толькі цвёрда ведае свой марксісцка-ленінскі графік, але ўважліва сочыць за машынай, каб яна не прапускала дарэмна пары, каб заўсёды было даволі вады ў катле, каб даўленне не падала. А калі хто-небудзь спускаў рэволюцыйную пару, тав. **Сталін** нагоняў яму такой «пары», што другому непаваднa было. **(Вясёлае ажыўленне ў зале, апладысменты).**

Машыніст лакаматыва рэволюцыі Сталін умее моцна згуртоўваць сваю брыгаду, вызваляць яе ад дрэнных, ненадзейных, нягодных работнікаў, уважліва сочыць і ўлічвае малейшую небяспеку, умее чула прыслухоўвацца, не ў прыклад многім нашым машыністам, да сігналаў кандуктарскай брыгады. Ён умее вырошчваць і згуртоўваць кадры. Сіла нашага руху ў згуртаванасці нашай перадавой брыгады, у згуртаванасці ленінскай партыі і яе сталінскага Цэнтральнага Камітэта, які вядзе краіну ад перамогі да перамогі. Поезд рэволюцыі ідзе чотка і ўпэўнена, цвёрда выконваючы расклад. Рэзультаты выканання цвёрдага раскладу першай і другой пяцігодкі відаць у росце нашай індустрыі, у вёсцы, у калгасах і саўгасах, на гіганцкіх заводах прамысловасці, у магутным узбраенні нашай слаўнай, магутнай Чырвонай арміі, у паляпшэнні матэрыяльна-бытавога становішча працоўных нашай радзімы, на спартакія-

дах, у школах, у кожным кутку нашай краіны, дзе расцвітае новае, светлае жыццё, дзе мацнее і падымаецца новы чалавек, які пераможа ва ўсім свеце **(Бурныя апладысменты).**

Для чаго ўсё гэта я гавару, таварышы? Для таго, каб усе нашы машыністы працавалі так-жа добра і вялі нашы паязды так-жа акуратна па графіку, як працуе і вядзе ўперад поезд нашай рэвалюцыі наш першы машыніст тав. **Сталін. (Бурныя апладысменты).**

Лазар Майсеевіч гаворыць аб тым, што першыя поспехі, якія дасягнуты транспартам, тлумачацца ўвагай Цэнтральнага Камітэта партыі і тав. **Сталіна** да кожнага пытання работы чыгунак.

У нас яшчэ многа недахопаў. Не гледзячы на поспехі, транспарт яшчэ адстае ад патрэбнасцей краіны, але я думаю, што вы дасцё мне права,—гаворыць тав. **Кагановіч,**—сказаць тут партыі, ураду і тав. **Сталіну:**

«Чыгуначнікі, партыйныя і беспартыйныя, будуць з гонарам выконваць пастаўленую перад імі задачу падцягнуць транспарт да ўзроўню патрабаванняў прамысловасці, абароны і ўсёй народнай гаспадаркі, здолеюць па-бальшэвіцку мабілізаваць увесь чыгуначны калектыў, згуртаваць чыгуначныя кадры і рушыць наш лакаматыў наперад — да перамогі! Я падымаю першы тост за таго, хто сваім кіраўніцтвам аблягчае нам перамогу, за здароўе нашага друга, правадыра і настаўніка, нашага **Сталіна».**

Бясконцымі авацыямі, воклічамі: «Няхай жыве першы машыніст Савецкага Саюза, любімы т. **Сталін!»** — адказвае зал на словы тав. **Кагановіча.** Нарком транспарта вітае ў сваіх наступных тостах кіраўнікоў савецкага ўрада тт. **Калініна** і **Молатава,** якія ўважліва адносяцца да транспарта і дапамагаюць работнікам чыгуначнага транспарта. Ён вітае народнага камісара цяжкай прамысловасці тав. **Орджанікідзе,** які ўзбройвае транспарт яго тэхнічнымі сродкамі; рабоча-сялянскую Чырвоную армію, якая з'яўляецца родным братам транспарта і ў якой чыгуначнікі абучаюцца дысцыпліне і ўладанню складанай тэхнікай, і яе правадыра тав. **Варашылава;** старэйшага пралетарыя, кіраўніка савецкага будаўніцтва намесніка старшыні Соўнаркома тав. Чубара; наркома развіваючайся з дня ў дзень харчовай прамысловасці тав. **Мікаяна.**

Пад гром апладысментаў, доўга несмаўкаючыя авацыі, пачынае сваё слова тав. **Сталін.**

Ён гаворыць аб рашаючым значэнні чыгуначнага транспарта для існавання і развіцця такой велізарнай па размерах сваёй тэрыторыі дзяржавы, як наша савецкая дзяржава. Ён гаворыць, што існаванне і развіццё нашай дзяржавы, якая перавышае сваімі размерамі любую дзяржаву свету, у тым ліку і Англію з яе калоніямі (не лічачы даменіёнаў), — немысліма без наладжанага чыгуначнага транспарта, які звязвае велізарныя вобласці нашай краіны ў адно дзяржаўнае цэлае.

Ён гаворыць, што развіццё народнай гаспадаркі такой велізарнай дзяржавы не магчыма без наладжанага чыгуначнага транспарта, які звязвае і цэментуе ў адно гаспадарчае цэлае ачагі і цэнтры прамысловасці з абласцямі і раёнамі сельскай гаспадаркі, якая дае ім сыравіну і харчовыя прадукты. Англія, як дзяржава была-б немысліма без першакласнага морскага транспарта, які звязвае ў адзінае цэлае яе шматлікія тэрыторыі. Таксама і СССР, як дзяржава, быў-бы немысліма без першакласнага чыгуначнага транспарта, які звязвае ў адзінае цэлае яго шматлікія вобласці і раёны. У гэтым, — гаворыць тав. **Сталін,** — вялікае дзяржаўнае значэнне чыгуначнага транспарта ў СССР.

Ён гаворыць аб вялікім гонару для кожнага працаваць на транспарце, аб работніках, якія зразумелі значэнне транспарта і кладуць сваю працу на алтар сваёй радзімы. Каб рэалізаваць рашаючую і ўсеабсяжную ролю чыгуначнага транспарта, трэбуецца перш за ўсё зладжанасць усіх частак і іх работа ў строга акрэсленым парадку. Гэта і ёсць тое, што называецца дысцыплінай на транспарце.

Тав. **Сталін** гаворыць аб тым, што ёсць у чыгуначнікаў работнікі на вялікіх пастах і работнікі, якія стаяць на невялікіх пастах, але няма на транспарце людзей непатрэбных ці нязначных, пачынаючы ад самых вялікіх кіраўнікоў і канчаючы «малымі» работнікамі аж да

стрэлачніка, аж да эмазчыка, аж да ўборшчыцы — усе вялікі, усе значны, бо транспарт з'яўляецца канвеерам, дзе важна работа кожнага работніка, кожнага вінціка. Калі вы гэта зразумееце, таварышы чыгуначнікі, — гаворыць тав. Сталін, — калі вы ўстановіце зладжанасць усіх частак, усіх работнікаў у механізме транспарта — гэта і будзе сапраўдная, большэвіцкая дысцыпліна.

Тав. **Сталін** гаворыць аб поспехах транспарта і недахопах яго работы, якія неабходна ўскрываць пры дапамозе смелай і рашучай самакрытыкі. Без крытыкі ісці наперад нельга. Гэта ісціна — чыста і празрыста, як чыста і празрыста крынічная вада. Ён гаворыць аб той самакрытыцы, якой заўсёды вучыў нас Ленін, крытыкаваць адкрыта, чэсна, да канца, як належыць рэвалюцыянеру, ускрываць язвы нашай работы, не баяцца крытыкі, а пайсці ёй насустрач, не замазваць недахопаў, прыслухоўвацца да голасу ўсіх работнікаў, не толькі вучыць работнікаў, але і вучыцца ў іх. Крытыка і самакрытыка — ключ, пры дапамозе якога мы ўскрываем і ўстраняем недахопы соцыялістычнага будаўніцтва і ідзем наперад. У гэтым сакрэт нашага прагрэсу.

Тав. **Сталін** гаворыць далей: поспехі транспарта несумненны, мы не збіраемся іх скрываць. Нам не патрэбна фальшывая скромнасць. Дасягненні нашы немалыя. З 56 тысяч вагонаў сярэднесутачнай пагрузкі вы падняліся да 73 тысяч вагонаў. Гэта не мала з пункту гледжання прасоўвання транспарта наперад. Але, таварышы, гэтага яшчэ недастаткова з пункту гледжання патрэбнасці краіны. Трэба дабіцца сярэднесутачнай пагрузкі ў 75—80 тыс. вагонаў у дзень.

Дазвольце агаласіць тост за вашы поспехі, якія несумненны і за якія вы заслужылі сапраўдную большэвіцкую таварыскую пахвалу. Дазвольце агаласіць тост за тыя дасягненні, якіх яшчэ няма ў вас, але якія абавязкова павінны быць, за тое, каб усе вы, ад стрэлачніка да наркома зрабілі ўсё неабходнае і паднялі транспарт, які ідзе ўжо ўгару, але ідзе яшчэ пакачваючыся, за тое, каб транспарт быў чотка працуючым, спраўна дзействуючым, дакладным, як добры механізм гадзінніка, канвеерам! За ўсіх вас і за вашага наркома, таварышы!

Тав. Сталін закончыў сваю прамову. У адзіным парыве падняліся ўсе прысутныя і адказалі на пранікнавенныя словы правадыра бурнай авацыяй у яго гонар. Доўга грымелі пад сводамі крэмлёўскага зала апладысменты, воклічы захаплення і радасці.

Тав. **Кагановіч** з велізарным уздымам выказаў пачуццё ўсіх прысутных чыгуначнікаў, заявіўшы ад іх імя тав. **Сталіну,** членам урада, кіруючым работнікам наркаматаў і Чырвонай арміі, прымаўшым удзел у прыёме, што чыгуначнікі прыкладуць усе сілы і 80 тысяч вагонаў штосутачнай пагрузкі дадуць ва што-б там ні стала ў 1936 годзе.





Тав. СТАЛІН і т. ДЗІМІТРАЎ у прэзідыуме VII конгрэса Комінтэрна.

# Пад сцягам комуністычнага Інтэрнацыянала

Два асноўныя факты дамініруюць над усёй цяперашняй міжнароднай абстаноўкай.

Агульны крызіс капіталізма пераходзіць у паласу рэзкіх сутычак унутраных і знешніх супярэчнасцей капіталістычнай сістэмы. Перамога соцыялізма ў СССР паказала рабочым усіх краін адзіна магчымы і адзіна правільны шлях да вызвалення ад гнёту эксплаататарскіх класаў і павярнула шырокія рабочыя масы, у тым ліку соцыял-дэмакратычных рабочых, да рэволюцыйнай барацьбы.

Рабочы клас зразумеў, што к перамозе фашызма ў Германіі прывёў раскол рабочага руху і адмаўленне соцыял-дэмакратыі ад якой-бы там ні было барацьбы супроць наступаючага фашызма. Разам з тым рабочы клас зразумеў, што для поспеху ў барацьбе супроць фашызма неабходна адзінства пролетарскага фронта на аснове рэволюцыйнай палітыкі.

З устанаўленнем у Германіі фашысцкай дыктатуры абнаглелі рэакцыйныя групы ва ўсіх капіталістычных краінах. Фашысцкая небяспека ўсюды ўзмацнілася. Адначасова ўдзесяцярылася небяспека новай імперыялістычнай вайны, у тым ліку вайны ў самым цэнтры Еўропы. Японскія імперыялісты пад лозунгам «Азія для азіятаў» пачалі ўжо новы перадзел свету, захватваючы адну правінцыю Кітая за другой. Італьянскія фашысты — напярэдадні вайны супроць абісінскага народу. Германскія нацыянал-соцыялісты, самая рэакцыйная і шавіністычная з усіх фашысцкіх партый, пагражаюць міралюбівым народам Еўропы. Яны падрыхтоўваюць крыжовы паход супроць СССР.

Толькі дзякуючы эканамічнай і палітычнай моцы і актыўнай мірнай паліты-

цы СССР, якая падбадзёрвае і яднае ўсе сілы, што стаяць за мір у капіталістычных краінах, і павялічвае размах антываеннай барацьбы працоўных, сусветная вайна да гэтага часу была прадухілена.

У гэтай выключна абвостранай міжнароднай абстаноўцы пачаўся пералом у рабочым класе. Першымі сімптомамі гэтага пералому былі стыхійна склаўшыйся адзіны фронт комуністаў і соцыялістаў у часе лейпцыгскага працэсу тав. Дзімітрава, узброеная барацьба рабочых у Аўстрыі і Іспаніі і ўсеагульная забастоўка супроць фашызма ва Францыі.

На прыкладзе Аўстрыі рабочыя ўсіх краін убачылі, што соцыял-дэмакратычнае кіраўніцтва вядзе да паражэння. На прыкладзе Францыі, — што адзіным фронтам можна затрымаць фашысцкае наступленне. Вопыт мас узмацняе з кожным месяцам цягу да адзінства рабочага класа наперакор супраціўленню II інтэрнацыянала.

На вопыце барацьбы адзіным фронтам пролетарыят пераканаўся, што можна з поспехам адбіваць наступленне капітала і фашызма і перашкодзіць падрыхтоўцы новай вайны, што фаталізм соцыял-дэмакратыі не ўгрунтаваны і няверны. Адзіны фронт умацаваў самаўпэўненасць і боездзольнасць пролетарыята. Ён паказаў, якую велізарную сілу складае рабочы клас, калі ён адзіны ў барацьбе і не адступае без бою, як у Германіі, а своечасова ўступае ў барацьбу згуртаванымі радамі.

Пад уплывам перамогі соцыялізма ў СССР, з аднаго боку, і капітуляцыі германскай соцыял-дэмакратыі і фашысцкіх шаленстваў у Германіі, Аўстрыі, Іспаніі і іншых краінах—з другога боку, рабочы клас стаў павярачваць да комунізма і рваць з рэфармісцкай палітыкай. Лозунгі Комуністычнага Інтэрнацыянала пачалі заваёўваць шырокія масы соцыял-дэмакратычных рабочых. Гэта паказвае, што рэфармізм і соцыял-дэмакратызм усё больш трацяць глебу ў рабочым класе.

Аб чым сведчаць усе гэтыя з'явы? Капіталістычная сістэма ўсё больш расхістваецца. Расце рэволюцыйнасць працоўных мас. Спее рэволюцыйны крызіс. Кожны дзень можа прывесці да буйных палітычных падзей, да пачатку палітычнага крызісу ў якой-небудзь з буйных капіталістычных краін.

VII сусветны кангрэс Комуністычнага Інтэрнацыянала, які збіраецца ў гэтай складанай і адказнай палітычнай абстаноўцы, абмяркуе ўсе важнейшыя пытанні тактыкі і стратэгіі міжнароднага рабочага руху ў прыстасаванні да сучасных умоў.

Вузлавой і галоўнай задачай міжнароднага рабочага руху ў цяперашні час з'яўляецца ажыццяўленне адзінага фронта барацьбы рабочага класа. Ці могуць комуністы чакаць, пакуль большасць рабочага класа аб'яднаецца на агульнай платформе барацьбы за звяржэнне ўлады капітала і перамогу пролетарскай рэволюцыі? Ці могуць яны чакаць, пакуль большасць пролетарыята далучыцца да праграмы Комуністычнага Інтэрнацыянала. Не, не могуць. Неабходна неадкладна арганізаваць барацьбу супроць наступлення фашызма, гэтага злейшага ворага, ў нацыянальным і міжнародным маштабе.

Таму нельга абмяжоўвацца толькі заклікам да барацьбы за дыктатуру пролетарыята. Неабходна ўказваць масам, **што трэба рабіць сёння, каб даць адпор наступленню капітала, абараніць сябе ад фашысцкага варварства і жахаў вайны,** што можна і патрэбна зрабіць для таго, каб дэзарганізаваць фашызм, перагарадзіць яму шлях, затрудніць развязванне новай імперыялістычнай вайны.

Адзіны фронт стаў магчымым таму, што ў соцыял-дэмакратычных масах пачаўся паварот да сумеснай барацьбы з комуністамі. Але частка соцыял-дэмакратычных правадыроў усё яшчэ шалёна супраціўляецца адзінаму фронту і імкнецца прадаўжаць сваю старую палітыку супрацоўніцтва з буржуазіяй і адмаўлення ад барацьбы супроць фашызма. Таму крытыка пазіцыі правых соцыял-дэмакратычных правадыроў не можа быць аслаблена. Але адначасова комуністы ўстанаўляюць цеснае супрацоўніцтва з тымі левымі соцыял-дэмакратычнымі рабочымі, функцыянерамі і арганізацыямі, якія змагаюцца супроць фашызма, стаяць за адзіны фронт з комуністамі і беззаветна абараняюць СССР. Комуністы выступаюць ва

ўсім свеце за поўнае перамаганне расколу ў рабочым класе. Яны горача падтрымліваюць імкненні рабочых да аб'яднання ўсіх сваіх актыўных сіл у адну пролетарскую партыю. На якіх умовах мысліма стварэнне такой адзінай рэволюцыйнай партыі пролетарыята?.

Існуюць, як вядома, партыі, якія яднаюць усялякія плыні ў рабочым класе, як напрыклад, англійская рабочая партыя. Але гэта на самой справе не партыя, а каалiцыя партый. Пролетарыяту неабходна, апрача такой «партыі», сапраўдная партыя адзінамышленікаў, якая здольна весці яго на рэволюцыйную барацьбу. Комуністы — за адну рэволюцыйную партыю пролетарыята. Але стварэнне такой партыі магчыма толькі на аснове яснай **праграмы і тактыкі рэволюцыйнай барацьбы.**

Комуністы не сумняваюцца, што такая партыя будзе створана, але яны супроць таго, каб чакаць стварэння такой партыі, бо неабходна неадкладная барацьба супроць фашызма і падрыхтоўкі новай імперыялістычнай вайны.

Комуністычны Інтэрнацыянал вырас у магутную палітычную сілу ва ўсім свеце. Комуністы не ўтойваюць, што яны змагаюцца за замену капіталістычнага ладу ладам соцыялістычным, за замену збанкрутаваўшай буржуазнай дэмакратыі дэмакратыяй пролетарскай, дыктатурай пролетарыята. Таму галоўным лозунгам комуністаў ва ўсім свеце ёсць, быў і астаецца лозунг барацьбы за совецкую ўладу. Але комуністы не могуць астацца абыякавымі да таго, у якой форме буржуазія ажыццяўляе сваё панаванне. **Для комуністаў заўсёды вышэй за ўсё інтарэсы працоўных мас.** Таму яны беззаветна змагаюцца за выратаванне астаткаў буржуазнай дэмакратыі, супроць наступлення фашызма.

Комуністам не абыякавы нацыянальны лёс народаў. Таму яны змагаліся і змагаюцца за сапраўднае права нацый на самавызначэнне аж да адзялення. Таму-ж комуністы ўсімі сіламі змагаюцца супроць фашысцкіх планаў парабашчэння зараз самастойных малых і слабых народаў.

Ва ўсім свеце цяпер ідзе барацьба паміж комунізмам і фашызмам, паміж рэакцыйнай фашысцкай буржуазіяй, якая імкнецца выратаваць загніваючы капіталізм, і соцыялістычным пролетарыятам, які імкнецца выратаваць чалавецтва ад жахаў фашызма і вайны.

Комуністычны Інтэрнацыянал, з'яўляючыся міжнароднай партыяй пролетарыята, змагаецца ў імя інтарэсаў усяго чалавечага грамадства. Яго поспехі ёсць поспехі тых новых сіл, якія павінны паварнуць чалавецтва да лепшай будучыні.

Комуністычны Інтэрнацыянал прыходзіць да свайго VII кангрэса ўзмацнеўшым і ўзмужалым, як адзіная, згуртаваная і магутная сусветная партыя, апраўдаўшая сябе на чале барацьбы рабочага класа на працягу больш чым паўтара дзесяткаў год свайго існавання.

Лозунгі VII сусветнага кангрэса павернуць да Комуністычнага Інтэрнацыянала новыя мільёны працоўных.

Пад сцягам Комуністычнага Інтэрнацыянала эксплаатуемыя і прыгнечаныя масы заваююць сабе права на лепшае жыццё, на шчасце і благапалучча, на сапраўдную пролетарскую дэмакратыю.

**(Перадавы артыкул «ПРАВДЫ»).**

# Пісьмо знатных людзей БССР таварышу Сталіну

Родны наш Сталін!

У калгасе імя Кірава, Камена-Лоўскага сельсовета, Шклоўскага раёна, жыве калгаснік Арцём Андрэевіч Новікаў, якому споўнілася сто два гады. Арцём Андрэевіч у мінулым годзе выпрацаваў у калгасе 240 працадзён і вясной гэтага года ўжо выпрацаваў 70 працадзён. «Не хачу паміраць, — гаворыць Арцём Андрэевіч, — хачу жыць і жыць, у мяне ў калгасе другая маладосць». І калі гэтай зімой прыхварнуў Арцём Андрэевіч, сказаў ён старшыні калгаса Цэнтровічу: «Хачу я пісьмо напісаць бацьку нашаму Сталіну. Хачу аб усім расказаць і падзякаваць за шчаслівае жыццё, якое я знайшоў у калгасе. А яшчэ напішу, як хачу доўга жыць, можа і прыдзецца яшчэ самому пагаварыць са Сталіным».

І гэта жаданне напісаць табе, аб усім расказаць, убачыць цябе і пагаварыць з табой жыве ў кожным з нас. І калі знатныя людзі завода імя Кірава яшчэ ў маі прапанавалі паслаць табе пісьмо ад усіх знатных людзей Савецкай Беларусі, які жывы водгук сустрэла гэта на ўсіх заводах, у саўгасах і калгасах, у школах, у кожным кутку Беларусі. Які вялікі гонар для кожнага з нас падпісаць гэта пісьмо табе, нашаму геніяльнаму, вялікаму праваднру і настаўніку, нашаму любімаму, роднаму Сталіну.

Нашы калгаснікі, якія былі на II усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў, расказвалі народу і потым аб гэтым у газетах пісалі, якое добрае ў цябе сэрца, якая клапатлівасць аб кожным з нас.

Калі калгаснікі калгаса «Чырвоныя Скарынічы», Менскага раёна, распытвалі сваю дэлегатку, прыехаўшую з II з'езда калгаснікаў-ударнікаў, Екацерыну Кульба: «Няўжо-ж гэта верна, што Сталін такі просты чалавек?», яна адказвала: «Самы блізкі нам, як родны ўсё роўна». І расказвала Екацерына Кульба, як, ты таварыш Сталін, унёс прапанову ў аборону жанчыны-калгасніцы, каб жанчыну вызвалялі ад работы на месяц да родаў і пасля родаў і каб ёй за гэты час аплачваць. І расказвала, што ты, як клапатлівы бацька, указваў: калі ў калгасніцы малыя дзеці, то трэба ёй бліжэй к дому даваць работу, каб яна магла дзяцей дагледзець.

Старшыня калгаса «12-годдзе Акцябрскай рэвалюцыі», Чырвона-слабодскага раёна, Сямён Сыман, і калгаса «Чырвоны пагранічнік», Старобінскага раёна, Гаўрыла Сцешыц расказвалі, як ты ўважліва слухаў кожнага калгасніка, як раіўся, як цікавіўся кожнай самай маленькай дробяззю.

Сцешыц расказваў нам, як добра ты, таварыш Сталін, ведаеш калгасную вытворчасць, як ты бачыш калгаснае жыццё, бадай, лепш чым мы самі.

З якой радасцю і гордасцю сустрэў кожны з нас твае, такія простыя і такія мудрыя словы: «З усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры».

З якой любоўю сустрэў кожны з нас твае выдатныя словы аб тым, што трэба праяўляць самыя клапатлівыя адносіны к «малым» і «вялікім» работнікам, вырошчваць іх клапатліва, дапамагаць ім, заахвочваць, высоўваць іх уперад, што трэба цаніць людзей і асабліва ўважліва і чула прыслухоўвацца к таму, што гаворыць рабочы, калгаснік, працоўны. Мы-ж моцна памятаем, што ніколі не было ў паноў іншых слоў пры зваротце да рабочага і селяніна, да беднага чалавека, як «быдла» (жывёла) і «пся крэў» (сабачая кроў).

Як танна раней цанілі гаспадары жыццё рабочага чалавека. Апранам Ці-

хан Фёдаравіч Дзмітрыеў з Чэрыкаўскага раёна расказвае, як у 1915 годзе, працуючы шахцёрам і апускаючыся ў шахту на глыбіню 100 метраў, ён сарваўся з лесніцы і паляцеў уніз па ствалу. Выратаваў шчаслівы выпадак: ухапіўся нейк за выступаўшую рэйку і ўтрымаўся. Уніз упала толькі лямпка, упала і разбілася. І з Ціхана Фёдаравіча ўтрымалі з яго заработку за лямпку 3 руб. 50 кап., а зарабляў ён тады менш рубля ў дзень. Для гаспадара жыццё рабочага — нішто, а вось лямпка — яна грошы каштуе.

«Сем'і дварцовых рабочых жылі ў вечна сырым падвале, а сям'я князя Паскевіча з 2 чалавек жыла ў 65 пакоях», — успамінае Анна Мохарава, працаваўшая да рэволюцыі пры дварцы князя Паскевіча ў Гомелі. А Лука Якаўлевіч Калашнікаў расказвае: «Для сабакі князя Паскевіча штодзенна з адборнага мяса на княжацкай кухні спецыяльна гатавалі супы і катлеты, а дварцовым рабочым рэдка калі давалі мяса, і то гатункам куды горш, чым для сабакі. Даглядаць сабаку быў прыстаўлен асобны чалавек — «лакей». Жыццё княжацкага сабакі каштавала ва многа раз даражэй жыцця працоўнага беларуса.

І цяпер яшчэ ўспамінаюць старыкі-калгаснікі, як барон Врангель у сваім маёнтку Рудабелка (Глускі раён) гвалтам зімой выганяў сялян з хат, прымушаючы іх замяняць сабак на паляванні.

Як далёка мы адышлі цяпер ад гнятучага старога, ад ранейшай беларускай вёскі:

Горы ды каменне,
Вузкія палоскі,
Гэта наша поле,
Поле нашай вёскі.
Курныя ваконцы,
Каб святла хоць трошкі,
Гэта нашы хаты,
Хаты нашай вёскі.
Лапці ды сярмягі,
Як абраз нябоскі,
Гэта нашы людзі,
Людзі нашай вёскі.
Карчмы ды астрогі,
Крыжыкі, бярозкі...
Гэта наша доля,
Доля нашай вёскі.

У нашым хлебе раней пастаяннай прымешкай былі: кара, мох і лебяда. І некаторыя вёскі Палесся яшчэ да нашага часу захавалі назву — Махаеды і Караеды.

Лясоў у Беларусі многа, а напраць кату не было чым: не толькі хворост, а нават грыбы і ягады ў памешчыцкім лесе забаранялася збіраць.

На панскіх, нашым потам і слязамі аблітых, землях ад зары да зары за жалкі грош гнуў спіну беларускі селянін.

Не вярнуць панам гэты час. Навекі атрымалі беларускія калгаснікі зямлю. Ні польскім панам, ні нямецкім фашыстам ні аднаго вяршка совецкай калгаснай зямлі не аддамо.

Радасным і шчаслівым, культурным і заможным становіцца наша жыццё, расце заможнасць нашых беларускіх калгаснікаў.

У калгасе «Чырвоны араты», Байханскага сельсовета, Гарадоцкага раёна, на працадзень прыпадала ў 1933 годзе 1,8 кілограма зернавых і 4,2 кілограма бульбы, а ў 1934 годзе ўжо прыйшлося на працадзень 4,1 кілограма зернавых і 12,7 кілограма бульбы. У гэтым калгасе кожны калгаснік мае карову, а апрача таго ў 21 гаспадарцы яшчэ ёсць па двое цялят і ў 51 гаспадарцы ёсць па 4 авечкі, а ўсяго ў гэтым калгасе 60 гаспадарак. У 1933 годзе толькі 27 калгаснікаў мелі боты, а ў гэтым годзе ўсе 60 калгаснікаў-гаспадароў ходзяць у скураных ботах. У 1933 годзе 10 калгасных дамоў было выклеена шпалерамі, а ў 1934 годзе выклеены шпалерамі ўжо 52 калгасныя дамы.

Калгаснік Бурый з калгаса «Бязбожнік», Лёзнянскага раёна, мае цяпер тры добрыя касцюмы, а Бурый — былы батрак, які раней усё жыццё абарваным хадзіў.

Нават наша зямля стала цяпер лепш радзіць. Калгасныя ўраджаі са старымі не параўнаеш. Вось, напрыклад, калгаснікі «Чырвонага барацьбіта», Новадворскага сельсовета, Менскага раёна, сабралі ў мінулым годзе з гектара азімага жыта 13 цэнтн., азімай пшаніцы 16 цэнтн., аўса 15,5 цэнтн., яравой пшаніцы 17 цэнтн. Калгаснікі калгаса імя Свердлова, Прускага сельсовета, Капыльскага раёна, сабралі з гектара ураджай жыта 16 цэнтн., азімай пшаніцы

18 цэнтн., ячменю 24,4 цэнтн., аўса 19,4 цэнтн., бульбы 16,9 цэнтн. і ільноваланна 4,6 цэнтн.

Такіх прыкладаў можна прывесці многа.

У калгасе імя Калініна, Рагачоўскага раёна, дзе 12 год бязззменна працаваў старшынёй калгаса Ягор Сцяпанавіч Завадскі, ёсць цяпер калгасны парк культуры і адпачынку, клуб, спартыўная і валейбольная пляцоўка, лазня, яслі. Арганізован калгасны аркестр. Для лепшых калгаснікаў-ударнікаў пабудавана 11 добрых, жалезам крытых, дамоў. Гэты калгас мае малочна-таварную ферму ў 180 кароў, свінаферму і вялікі фруктовы сад. І ва многіх калгасах цяпер абсаджваюць вуліцы дрэвамі, пракладваюць тратуары. Весела глядзець на маладыя зялёненькія бярозкі і яблынькі, якія растуць цяпер каля калгасных дамоў.

Ва многіх калгасах ўжо ёсць свае калгасныя электрастанцыі, адкрываюцца хаты-радзільні. Узорныя дарогі будуем мы цяпер і не забываем, што гэтыя дарогі — для чалавека. Таму мы абсаджваем нашы дарогі дрэвамі, ставім па лініі дарогі і на перакрыжаваннях лаўкі, разбіваем клумбы з кветкамі.

Беларуская вёска раней ведала толькі лапці з лыка, даматканую світку і пасконную рубашку. А цяпер у выхадны дзень на калгасную вуліцу многа выходзіць дзяўчат у шаўковых блузках і сукенках і калгаснікаў — у гарадскіх касцюмах.

Беларускі селянін раней прападаў у гразі і каросце, а за апошні год нашы калгаснікі купілі туалетнага мыла, адэкалону і духоў на пяць мільёнаў рублёў.

Кожныя 76 сялянскіх гаспадарак са 100 у нас, у Беларусі, аб'ядналіся ў калгасы. Звыш 4.000 трактароў, тысячы складаных і паўскладаных машын, малатарань, сеялак, жняярак, аблягчаючы сялянскую працу, сталі асновай нашай калгаснай вытворчасці. Усё гэта нам дала праведзеная пад тваім мудрым кіраўніцтвам, дарагі наш Сталін, індустрыялізацыя Совецкай краіны.

Раней у Беларусі не было сваёй прамысловасці — былі толькі дробныя саматужныя і паўсаматужныя майстэрні. Цяпер на пустырах і балотах выраслі гіганты-заводы, абсталяваныя па апошняму слову тэхнікі, і магутныя крыніцы энергіі, як Асінаўская раённая электрастанцыя імя Сталіна.

Ухваты, вілы, замкі і вёдры — вось прадукцыя «металапрамысловасці» старой Беларусі. А цяпер у нас ёсць сваё буйнае машынабудаўніцтва і варштатабудаўніцтва. Нашы заводы асвоілі такія складаныя машыны і варштаты, як тарфяны камбайн — багер, камнедрабілкі, ільномалатарні, далбёжныя варштаты сістэмы Калава, свідравальныя варштаты, помпы Верцінгтон і інш. Складаныя сельскагаспадарчыя машыны выпускае наш Гомельскі завод сельгасмашынабудаўніцтва. Частку абсталявання для тэкстыльнага камбіната Турцыі дае завод імя Кірава (Менск).

Магілеўская фабрыка штучнага шоўку трымае ўсесаюзнае пяршынства па якасці прадукцыі ў шаўковай прамысловасці. Запалкавая фабрыка «Х Окцябр» у Рэчыцы трымае ўсесаюзнае пяршынства па якасных паказальніках і выкананню промфінплана ў запалкавай прамысловасці.

Мы з поспехам асвойваем такія гіганты, як касцюкоўскі механізаваны шкляны завод, бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, крычаўскі цэментны завод. На поўным хаду—нашы буйныя тэкстыльныя і швейныя прадпрыемствы, наша скураная і запалкавая прамысловасць.

Тарфяныя балоты Беларусі служаць справе соцыялізма, як крыніцы апалу і энергіі.

У прамысловасці цяпер занята звыш 120 тысяч рабочых, а да рэволюцыі было ўсяго каля двух дзесяткаў тысяч рабочых, дый то, у большасці, паўсаматужнікаў.

Выраслі з беларусоў кадры дырэктароў прадпрыемстваў, інжынераў, тэхнікаў, высокакваліфікаваных рабочых, аўладаўшых на «выдатна» навейшай тэхнікай. Дырэктар завода імя Кірава (Менск) беларус Драбышэўскі кіруе ім так, што завод з поспехам асвойвае складанейшыя варштаты і перавыконвае промфінплан. Дырэктар лепшай у Саюзе запалкавай фабрыкі «Х Окцябр» — беларус Зубрыцкі. Дырэктар чырвонасцяжнага завода «Большэвік», сістэматычна перавыконваючага промфінплан,

— беларус Бандарчык. Дырэктар Політэхнічнага інстытута — беларус Дружалоўскі. І такіх кадраў вырашчана партыяй з беларусоў многа дзесяткаў і соцень.

Не рэдкі такія беларускія рабочыя сем'і, як сям'я Паўла Іванавіча Гаўрыленка (Рэчыца — завод імя Варашылава), у якой старшы сын Нікалай — галоўны інжынер Бярэзінскага хімічнага камбіната, сын Міхаіл — канструктар на заводзе імя Варашылава, дачка Аляксандра — горны інжынер, а дачка Елена — інжынер-эканаміст. У старога рабочага завода імя Кірава (Гомель) Брусаванка — 6 сыноў і дачка. Тры сыны Брусаванка — урачы, два сыны — інжынеры, адзін сын — рабочы-ўдарнік, а дачка — інжынер завода «Чырвоны хімік». Сам тав. Брусаванік працуе на заводзе ўжо 40 год. Ударнік.

Не рэдкі такія калгасныя сем'і, як сям'я Пятра Магера — брыгадзіра калгаса «Авангард», Аршанскага раёна, і сям'я старшыні калгаса «Новае жыццё», Рагачоўскага раёна, Язэпава. У Магера — тры сыны: адзін — камандзір корпуса, другі — горны інжынер, трэці — танкіст. У Язэпава — пяць сыноў і тры дачкі. Сын Анісім працуе на кіруючай рабоце ў трэсце ў Маскве, сын Ігнат — старшыня Мяркулавіцкага сельсовета ў Рагачоўскім раёне, сын Трафім заканчвае Плеханаўскі інстытут, сын Іван вучыцца ў ваеннай школе на чырвонага камандзіра, сын Якаў — трактарыст Рагачоўскай МТС, дачка Маня — калгасніца - ўдарніца. А самому Язэпаву — 65 год і ён працуе старшынёй перадавога калгаса.

Якой цёмнай, няграматнай і забітай была раней Беларусь. На кожныя 100 жыхароў у вёсцы прыходзілася больш 80 няграматных. Многія беларускія вёскі Палесся нават не ведалі, што такое грамата. Ні адной школы на роднай мове не было, ні адной вышэйшай навучальнай установы не было ў старой Беларусі.

Савецкая Беларусь — краіна суцэльнай граматнасці. Савецкая Беларусь мае сваю Акадэмію навук, дзесяткі навукова-даследчых інстытутаў, Беларускі дзяржаўны універсітэт, каля двух дзесяткаў ВНУ і ВТНУ з тысячамі вырашчаных за гады рэвалюцыі з беларусоў і іншых нацыянальнасцей БССР навуковых работнікаў і спецыялістаў, да сотні тэхнікумаў і тысячы школ. У нас ёсць беларускі тэатр оперы і балета, тры беларускія драматычныя тэатры, руская драма, яўрэйскі тэатр, польскі тэатр. Выраслі і расцвілі беларуская савецкая літаратура і мастацтва.

З адсталай, няграматнай, жабрацкай калоніі рускага самадзяржаўя Беларусь, пад тваім мудрым кіраўніцтвам, дарагі наш Сталін, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, пры велізарнай брацкай дапамозе ўсяго Савецкага Саюза і асабліва рускага пралетарыята, стала перадавой, індустрыяльна - калгаснай, квітнеючай ордэнаноснай рэспублікай.

З вялікай гордасцю і радасцю сустрэлі мы, сустрэў увесь беларускі народ высокую ўзнагароду партыі і ўрада — ордэн Леніна. За вялікую справу партыі Леніна—Сталіна, за справу соцыялізма пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі самааддана змагаліся ўсе рабочыя, усе калгаснікі, усе працоўныя Савецкай Беларусі.

Мы святкуем сёння пятнаццацігоддзе вызвалення Беларусі ад белапалякаў. Наша слаўная Чырвоная армія выгнала белапольскіх акупантаў. Беларускі народ геройчна змагаўся і ў радах Чырвонай арміі, і ў партызанскіх атрадах у тыле ў ворага супроць белапалякаў. Перамога над польскімі акупантамі, як і ўсе буйнейшыя перамогі Чырвонай арміі ў грамадзянскай вайне, натхнялася і арганізоўвалася непасрэдна Леніным і табой, тав. Сталін. І гэта вечна будзе памятаць і цаніць беларускі народ.

Дзеля чаго ішлі польскія паны на Беларусь?

Падняволіць зноў беларускі народ. Вярнуць фабрыкі і заводы капіталістам. Вярнуць зямлю яснавяльможным панам — памешчыкам і кулакам.

Князі Радзівілы мелі толькі ў Менскай губерні каля 200 тысяч дзесяцін зямлі. І зразумела, чаму цяпер у Поль-

нічы князь Радзівіл такім істошным голасам лемянтуе аб новым паходзе на Совецкі Саюз. Граф Тышкевіч меў 296 тысяч дзесяцін. Граф Патоцкі меў 240 тысяч дзесяцін, граф Чапскі — 35.467 дзесяцін. Пан Скірмунт — 47 тысяч дзесяцін, пан Пуслоўскі — 90 тысяч дзесяцін, князь Друцкі-Любецкі — 23 тысячы дзесяцін. Вядомы Радзянка — 67.511 дзесяцін, графіня Ігнацьева — 35 тысяч дзесяцін. Апрача таго, сотні тысяч дзесяцін зямлі мелі польскія паны ў другіх губернях Беларусі. А княгіня Гогенлоэ мела на Случчыне 120 тысяч дзесяцін зямлі, на Мазыршчыне 220 тысяч дзесяцін зямлі, на Бабруйшчыне 200 тысяч дзесяцін зямлі, а ўсяго 712.737 дзесяцін.

Вось што цягнула і цягне польскіх паноў і нямецкіх фашыстаў у Беларусь.

Не было межаў гвалтам і здзекам белапалякаў у 1919-1920 гадах. Яны зверскі псмціліся беларускаму народу за тое, што ён не хацеў больш гнуць спіну на паноў.

Багравае зарава пажарышч навісла над гарадамі і сёламі Беларусі. Белапалякі палілі гарады — Менск, Бабруйск, Барысаў, Полацк, Слуцк, палілі вёскі. У Барысаве было спалена белапалякамі 2.500 дамоў і забіта 500 чалавек. У адным Барысаўскім павеце белапалякі спалілі да тла 20 вёсак. У адным толькі Слуцкім павеце белапалякі спалілі 1.462 сялянскія двары і забралі ў сялян 1.820 коней, 2.716 кароў, 1.196 свіней і 2.906 авечак. Белапалякі гвалцілі і збівалі жанчын і дзяцей. 69-гадовая матка расстралянага ў Дукорах начальніка партызанскага атрада Андрэя Блажко— Варвара Пятроўна ўспамінае аб белапаляках: «Расстрэльваць сялян, біць жанчын і дзяцей — на гэта яны былі вялікія майстры. Памятаю, як зараз, выгналі на поле ўсё насельніцтва вёскі Дукоры і патрабавалі: выдайце таварышоў Андрэя. Ніхто і рота не раскрыў, каб назваць прозвішчы. Тады белапалякі знялі з падводы кулямёт і адкрылі стральбу па народу, дзе былі дзеці і старыкі. Многіх забілі, сярод іх маіх суседзей — Лебедзя, Страха, Кузьміна. Я яшчэ і цяпер нашу сляды ад іх шампалоў». Варвара Пятроўна ўспамінае, як 17 мая 1920 г., калі белапалякі перад усім насельніцтвам расстрэльвалі 11 дукорскіх партызан, Андрэй сказаў ёй: «Не плач, маці, запамятай — вам будзе потым лепш». «Андрэй перадаў мне скрутак, толькі прасіў не разгортваць яго зараз. Выпаўшы з маёнтка, я разгарнула скрутак, гэта была рубашка Андрэя. О, якая гэта была рубашка... 38 ран! Шампаламі яны вырывалі разам з крывёю, прыліпшай к палатну, кавалкі мяса з цела майго сына».

Вёску Качэрычы, Бабруйскага павета, белапалякі акружылі з усіх бакоў і падпалілі. З палаючай вёскі не выпусцілі нікога, нават жанчын з груднымі дзецьмі. У страшэнных муках згарэлі жывымі 200 сялян, жанчын і дзяцей.

Пры дапамозе Чырвонай арміі беларускі народ вызваліўся ад азвярэлых белапольскіх банд, вызваліўся ад цяжкой, жудаснай долі, якая дасталася нашым братам у Заходняй Беларусі, падуладнай Польшчы.

Гэту долю рыхтавалі беларускаму народу прэзрэнныя нацдэмы, якія лізалі боты і нямецкаму кайзеру і польскім панам, прадавалі оптам і ў розніцу беларускі народ. Іх жалкія астаткі, выкінутыя беларускім народам за рубеж совецкай краіны, яшчэ і сёння рыхтуюць разам з нямецкімі і польскімі фашыстамі, генераламі, панамі кайданы, бізун і ярмо для свабоднага беларускага народу.

Няхай паспрабуюць яны напасці на наш Совецкі Саюз, на нашу маці-радзіму, створаную рукамі рабочых, калгаснікаў, працоўных, узлялеяную і выпеставаную нашай большэвіцкай партыяй на чале з Леніным і табой, родны наш Сталін, — «атрымаюць сакрушальны адпор, каб надалей непаваднa было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод» **(Сталін).**

І калі імперыялісты навяжуць нам вайну, няхай ведаюць, што мы будзем ваяваць не на нашай зямлі. І гэту нашу рашымасць і волю адлюстраваў у напісанай цяпер песні наш беларускі паэт Янка Купала:

«На іхніх землях, з іхніх генералаў
Знімаць пагоны будзем, шаблі і
крыжы».

Нашы дзеці ніколі не будуць ведаць рабскай долі. Яны растуць свабоднымі і шчаслівымі, перад імі адкрыты ўсе шляхі ў жыцці.

Нашы дзеці многа раз напаміналі нам, каб мы ў пісьме табе, родны наш Сталін, не забылі напісаць, што яны — дзеці, піонеры, школьнікі шлюць табе, Сталіну, прывітанне і любяць цябе, Сталіна, як свайго бацьку.

Сумныя, жаласлівыя паднявольныя песні спяваў раней беларускі народ.

У складзенай народам песні маці, закалыхваючы свайго сына, спявала:

«Не плач, маё дзіцятка,
А цыц, маё роднае,
Вунь войт ідзе,
На татку, на мамку
Ён бізун нясе.
Схавайся ты, дзетка,
На божу пасцельку,
Не ўбачыш ты гора,
Гора мужыкова,
Не пазнаеш долі,
Кроўкай палітою».

Новыя песні склаў цяпер і спявае беларускі народ, песні радаснага і шчаслівага жыцця.

«Куплю Леніна партрэт,
Залатую рамачку,
Вывёў ён мяне на свет,
Цёмную сяляначку.
А на небе многа зорак,
Адна зорка ўсіх ярчэй.
Сталін кажа, што ў калгасе
Жыццё будзе нам лягчэй.
Прыедзь, Сталін, паглядзі,
Нам у калгасе добра жыць.
У калгасе мы жывем,
Толькі прыпяваем,
У час сеем, добра жнем,
Сваё дабро маем».

Мы думаем, дарагі таварыш Сталін, што нельга на нашых поспехах супакоіцца, зазнацца, пайсці на бакавую. Калі мы не будзем чэсна адносіцца да работы і берагчы наша агульнае дабро, то і вялікая гаспадарка можа на змарку пайсці. Мы ўсе, ад малога да вялікага, будзем працаваць з усіх сіл, каб наша прамысловасць ва многа раз хутчэй рушыла наперад, каб усе нашы калгасы сталі большэвіцкімі, а ўсе калгаснікі — заможнымі, каб яшчэ ярчэй расцвітала наша культура, каб яшчэ радасней і шчаслівей стала наша жыццё, каб яшчэ непрыступней былі для ўсіх ворагаў заходнія граніцы вялікага Совецкага Саюза.

Родны наш Сталін, прымі ад усіх нас, ад усяго свабоднага беларускага народу наша дзякуй і наша гарачае большэвіцкае, рабочае, калгаснае, працоўнае прывітанне. Жадаем табе, родны наш, ад усёй душы здароўя на доўгія-доўгія гады.

ПІСЬМО ПАДПІСАЛІ 25.285 ЗНАТНЫХ ЛЮДЗЕЙ БССР, АБГАВАРЫЛІ і ПРЫНЯЛІ 1 мільён 124 тысячы РАБОЧЫХ, КАЛГАСНІКАЎ і ПРАЦОЎНЫХ РЭСПУБЛІКІ.



# Узначаліць барацьбу за большэвіцкі ўраджай

БССР уступіла ў перыяд уборкі багатага ўраджаю.

Добры ўраджай ёсць у першую чаргу рэзультат узорнай апрацоўкі зямлі, арганізавана праведзенай сяўбы. Добры ўраджай—гэта рэзультат перамогі калгаснага ладу, той велізарнай работы, якую партыя правяла па ўмацаванню калгасаў. Задача заключаецца толькі ў тым, каб **поўнасцю, у тэрмін і без малейшых страт убраць гэты багаты ўраджай.**

Уборка ўраджаю, як паказаў вопыт мінулых год, непараўнальна з сяўбой—справа больш складаная. Уборка патрабуе добрай арганізаванасці і высокай палітычнай пільнасці.

Гістарычныя рашэнні чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) ясна і дакладна вызначылі задачы ўсіх арганізацый, пачынаючы ад цэнтральных і канчаючы нізавымі — соўгасамі, МТС, калгасамі, брыгадамі і звеннямі.

Рэалізаваць усе тэтыя ўказанні на ўсіх участках работы і азначае забяспечыць поспех уборкі.

Велізарнай адказнасці задачы ўскладаюцца ў сувязі з гэтым на нашы газеты. Задачы гэтыя ў асноўным заключаюцца ў прапагандзе і папулярызацыі рашэнняў пленума ЦК, у мабілізацыі вакол гэтых рашэнняў актыўнасці мас і ў праверцы выканання дырэктыў пленума.

Правільная папулярызацыя рашэнняў пленума заключаецца ў тым, каб кожны калгаснік, кожны рабочы соўгаса зразумеў тыя патрабаванні, якія партыя ім прад'яўляе.

Умець своечасова паказваць добры вопыт работы, падцягнуць адстаючых, указаць недахопы і сродкі іх знішчэння, дабівацца дакладнага выканання работ у тэрміны, указаныя партыяй, своечасова і бязлітасна выкрываць дзеянні класавага ворага і яго агентуры, мабілізаваць шырокія масы калгаснікаў на барацьбу за захаванне кожнага зерня,—такавы задачы газет.

Першыя дні ўборкі яскрава тавораць аб тым, што рад газет **(Расоны, Ельск, Камарын)** прадаўжаюць святкаваць перамогі веснавой сяўбы, не ўзначальваюць уздым актыўнасці калгасных мас на барацьбу за рэкордны ўраджай.

Толькі ліберальнымі адносінамі да класавага ворага можна вытлумачыць той факт, што камарынская раённая газета па гэты дзень **не выкрыла віноўных у антыдзяржаўных дзеяннях** у спробах здаць дзяржаве хлеб, заражаны кляшчом.

Выкрываць, паказваць на канкрэтных фактах малейшыя спробы класава-варожых элементаў ашукваць пролетарскую дзяржаву павінен у першую чаргу наш друк.

Самі рэдакцыі раённых і соўгасных газет, іх апарат бясспрэчна не здолеюць ўзначаліць барацьбу за добраякасную ўборку і здачу хлеба без шырокай сувязі з калгаснымі масамі і рабселькорамі. Асабліва зараз, у самы адказны перыяд завяршэння сельскагаспадарчага года, гэта сувязь павінна быць узмоцнена больш, чым калі-б там ні было.

Партыя выхавала велізарны калгасны актыў—удзельнікаў і энтузіястаў нізавога друку. З кожным днём расце колькасна і якасна нізавы калгасны друк, карыстаючыся велізарным аўтарытэтам у калгаснай вёсцы. Справа заключаецца ў тым, каб нашы раённыя і соўгасныя газеты з дня ў дзень аказвалі насценнаму друку сістэматычную дапамогу і падтрыманне, каб яны дапамагалі рэдкалегіям уцягваць у работу насценнага друку ўсё новых і новых ударнікаў калгасных палёў.

Брыгада ініцыятара ўсебеларускага спаборніцтва калгасных брыгад **Тараса Гарая** заваявала небывалыя поспехі ў значнай ступені таму, што брыгадная насценгазета мабілізавала, згуртавала ўвесь калектыў у моцную ўдарную брыгаду, што брыгадная насценгазета забяспечана сістэматычнай дапамогай і кі-

раўніцтвам **«Рэчыцкай праўды»**. Тав. Гарай прызнае: «...без газеты я-б нездолеў заваяваць пяршынства ў спаборніцтве».

Уборачныя работы неадлучны ад загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў, і ў практыцы работы мы абавязаны падпарадкаваць уборку поўнаму выкананню здачы пролетарскай дзяржаве хлеба, ільну, бульбы і т. д.

Трэба прызнаць, што да рамонту складаў, элеватараў, зернахавальнікаў, дэзінфекцыі іх, пабудовы новых складаў ва многіх раёнах зусім мала ўвагі ўдзяляецца, не правяраюцца і людзі, працуючыя ў сістэме Заготзярно, якім партыя даручыла гэты адказнейшы ўчастак работы.

Барацьба з раскраданнем і стратамі, барацьба з ворагамі калгаснага ладу і ў гэтым годзе астаецца рашаючай і цэнтральнай задачай для ўсіх звенняў нашага большэвіцкага друку.

БССР уключылася ва ўсесаюзны конкурс-спаборніцтва старшынь калгасаў на лепшую пастаўку дзяржаве высокаякаснага зярна. Прамы абавязак усяго нашага большэвіцкага друку арганізаваць і ўзначаліць барацьбу за пяршынства ў спаборніцтве. Трэба з дня ў дзень прапагандаваць, паказваць вопыт перадавых калгасаў, якія па-баявому змагаюцца за першае месца ў конкурсе. Лепшы хлеб проста з-пад малатарні павінен быць здан пролетарскай дзяржаве.

Поспехі веснавой сяўбы з'яўляюцца безумоўна і рэзультатам напружанай работы ўсяго нашага большэвіцкага друку, які пад кіраўніцтвам партыі здолеў мабілізаваць калгасныя масы, армію рабсилькораў на заваяванне для БССР адпаго з першых месц сярод рэспублік і абласцей Совецкага Саюза.

Аднак, не трэба ні на мінуту забываць, што **ураджай яшчэ трэба заваяваць. Поспех барацьбы** ўсіх калгаснікаў за заможнае і культурнае жыццё **вырашаецца зараз на фронце уборкі і загатовак.** Забываць гэта асноўнае — значыць не разумець сутнасць рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), не разумець палітыкі нашай партыі на вёсцы.

Не супакойвацца на дасягнутых поспехах, арганізоўваць масы, распазнаваць і выкрываць дзеянні класавага ворага, апартуністаў, правяраць работу на кожным участку ўборкі і загатовак, дабівацца правільнай расстаноўкі людзей і ўвагі да жывога чалавека—вось умовы для таго, каб кожная газета стаяла на вышыні задач дня.

Работа друку і кожнай газеты паасобку будзе расцэньвацца ў першую чаргу па тым, як яны змогуць дапамагчы партыі ў арганізацыі ўборкі і хлебапаставак. Гэта абавязан памятаць кожны рэдактар газеты, кожны работнік большэвіцкага друку.

——— □□ □□ ———



# Памылка,
## якую робяць многія газеты

Партыя зараз праводзіць велізарнейшай важнасці работу—праверку партыйных дакументаў. Ці трэба даказваць вялікае значэнне гэтай работы для далейшага ўмацавання радоў нашай большэвіцкай партыі?

Бясшечныя адносіны да партыйнай гаспадаркі ў радзе партыйных арганізацый, безадказныя адносіны да партыйных дакументаў, ратазейства многіх комуністаў — стварылі магчымасць розным прахадзімцам, класава-варожым элементам прабрацца ў партыю і на адказныя дзяржаўныя пасады і пад прыкрыццём партыйнага білета тварыць свае гнюсныя справы.

Выкрыць і выгнаць з партыі прымазаўшыхся да яе заклятых ворагаў народу, устанавіць правільны і дакладны ўчот комуністаў, выкарчаваць арганізацыйную распушчанасць, ганебную бескляпотнасць да партыйных дакументаў, прывесці ў поўны парадак усю нашу «партыйную гаспадарку» — у гэтым палітычная сутнасць праверкі партдакументаў.

Задачы друку ў гэтай рабоце выключна вялікія. Газета, сваімі шчупальцамі пранікаючы ў глыбокія масы, праз рабкораў і селькораў, звязаная з рабочымі і калгаснікамі, можа і павінна аказаць актыўнейшую дапамогу райкомам партыі. Газета павінна заўсёды трымаць на баявым узводзе пільнасць комуністаў і беспартыйных рабочых, мабілізоўваючы іх увагу вакол праверкі партдакументаў. Здаецца, гэта зразумелая ісціна.

На вялікі жаль, значная частка рэдактароў раённых газет не зразумелі сваёй ролі ў правадзімай праверцы партыйных дакументаў. Прагледаючы камплекты, мы знаходзім нямала раённых газет, якія не толькі не ўключыліся ў гэту адказнейшую работу, а проста замоўчваюць, абыходзяць яе.

Вось, напрыклад, **«Комунар Магілеўшчыны»**—газета, якая не можа скардзіцца ні на адсутнасць месца, ні на адсутнасць людзей у апараце рэдакцыі. Гэта газета, перадрукаваўшая рад перадавых артыкулаў з «Праўды», прысвечаных праверцы партдакументаў, усё-ж сваёй ролі, сваіх задач не зразумела.

Апрача ўжо ўказаных перадавых артыкулаў **«Праўды»**, у «Комунары Магілеўшчыны» не было надрукавана ні аднаго радку матэрыялу аб праверцы, быццам-бы ў Магілеўскай партарганізацыі гэта работа не праводзіцца.

Газета не толькі не дапамагла райкому выкрыць чужых партыі людзей, ашуканствам пралезшых у яе рады, але не заўважыла, калі асобныя людзі, якім райком даручыў правяраць дакументы, груба скажалі дырэктывы ЦК ВКП(б) і звялі гэту работу да чыста тэхнічнай канцылярскай справы.

28 ліпеня была апублікавана пастанова ЦК КП(б)Б, якою адмянялася праверка праведзеная ў магілеўскай партарганізацыі. Да праверкі ў Магілёве былі прыцягнуты людзі, якія не могуць і не маюць права займацца гэтай справай. ЦК устанавіў, што Хасман апрача таго, што, не будучы членам бюро, не меў права праводзіць праверку, ён праводзіў яе на хаду, не вывучаючы кожнага комуніста, часта проста даваяраў на слова, спадзяючыся на тое, што ён «ведае ўсіх комуністаў». А вось «Комунар Магілеўшчыны», знаходзячыся ў адным доме в райкомам партыі, прайшоў міма гэтых фактаў, не палічыў патрэбным выступіць супроць апашлення важнейшай палітычнай справы.

Факт адмены праверкі таксама не парушыў алімпійскі спакой рэдакцый-

ных работнікаў. Рэдакцыя прадаўжала замоўчваць праверку, прабываць у ролі пабочнага наглядальніка.

Толькі пасля таго, калі ЦК КП(б)Б поўнасцю адмяніў праверку партдакументаў Магілеўскай партарганізацыі, «Комунар Магілеўшчыны» нарэшце рашыўся на «подвіг». Ён выступіў з перадавым артыкулам. Але тут ён паказаў узор бяззубасці і няўмення па-бальшэвіцку прызнаваць свае ўласныя памылкі.

> **«Мы недаацанілі ўсёй палітычнай важнасці дырэктывы ЦК ВКП(б) аб праверцы партыйных дакументаў».**

— піша газета. І ў якасці галоўных віноўнікаў яна выстаўляе двух сакратароў парткома т.т. **Сегало** і **Глушынскага,** якія выступалі на нарадзе з крытыкай работы райкома па праверцы партдакументаў. Газета стала на шлях замазвання памылак бюро райкома і сваіх уласных, звальваючы віну на тых, хто выступаў з крытыкай. Гэтым сваім выступленнем газета фактычна стала на небольшэвіцкі шлях, на шлях зажыму самакрытыкі.

Аб сваіх уласных памылках газета іншых выразаў не знайшла, як такі, што мы «нездавальняюча асвятлялі ход праверкі партдакументаў».

> **«Праверка партыйных дакументаў — гаворыць тав. Жданаў—накіравана на тое, каб аднавіць парушаную ў радзе арганізацый грань паміж партыйнымі і не партыйнымі, паміж партыяй і не партыяй, паміж авангардам і масамі».**

І буйнейшую памылку робіць тая газета, якая стаіць у баку ад гэтай сур'ёзнейшай работы, правадзімай партыяй. Для «Комунара Магілеўшчыны» відавочна гэта не выпадкова і таму, што ў склад адказных работнікаў пранікді чужыя людзі.

# Не адміністраваць, а выхоўваць кадры

«**Кадры вырашаюць усё».** Гэты найвялікшы лозунг, які робіць эпоху, становіцца здабыткам усіх працоўных неабсяжнай краіны Советаў. На прадпрыемствах, у калгасах — усюды абгаварвалі прамову тав. **Сталіна** на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі. Радасцю, бадзёрасцю і ўпэўненасцю за нашае сучаснае і будучае напаўняецца сэрца кожнага ўдзельніка вялікай будоўлі соцыялізма ад агромнай любві і клопатаў, якімі прасякнуты кожная мысль, кожнае слова правадыра к «вялікім» і «малым» работнікам нашай пролетарскай радзімы.

На каго, як не на наш большэвіцкі друк ускладаецца вялікая адказная і разам з тым ганаровая задача—давесці да глыбінь свядомасці кожнага рабочага, кожнага калгасніка новы лозунг правадыра?

Нельга цяпер меркаваць аб рабоце газеты без актыўнай і аператыўнай барацьбы газеты за дзейснасць гэтага лозунга. Паглядзім-жа як нашы асобныя раённыя газеты зразумелі сутнасць лозунга тав. Сталіна аб кадрах і як яны змагаюцца за праводзенне яго ў жыццё.

Возьмем, напрыклад, **быхаўскую** раённую газету **«Маяк комуны».** Прамова тав. Сталіна ў ёй змешчана 11 мая. Што-ж далей робіцца па рэалізацыі гэтай прамовы? Рэдакцыя арганізавала водгукі рабочых і калгаснікаў? Не, не відаць гэтага ў газеце ні ў маі, ні ў чэрвені. У рэдакцыі прагледзелі агромную хвалю радасці і любві працоўных да правадыра партыі, якая пракацілася ў адказ на выдатнейшы дакумент чалавецтва.

Не відаць таксама і таго, каб газета пасля прамовы зрабіла пералом у сваёй рабоце, паварот да жывых людзей, да кадраў, да іх выхавання. Што гэта так, можна ўбачыць з такіх прыкладаў

Успомнім недалёкае мінулае.

У майскія дні веснавой сяўбы (14 мая) газета адразу некалькі сельсоветаў агульна залічае ў зрыўшчыкі сяўбы: «Чачэвіцкі, Глускі, Кузькаўскі, Грудзінаўскі, Трылінскі сельсоветы пра-

даўжаюць зрываць сяўбу». Адразу 5 сельсоветаў сталі зрыўшчыкамі. Няўжо ў гэтых сельсоветах не было работнікаў, якія сумленна змагаліся за правядзенне сяўбы? Больш таго: рэдакцыя ў **той-жа самы дзень адны і тыя-ж сельсоветы заносіць на чорную дошку і называе іх зрыўшчыкамі.**

14 мая на чырвоную дошку перадавікоў сяўбы ў ліку іншых занесены і сельсоветы Н. Тошчынскі, Макранскі, Н. Быхаўскі. Гэтыя-ж сельсоветы ніжэй занесены ў лік «ганебна зрываючых фінплан».

Аказваецца для рэдакцыі дастаткова паглядзець на лічбы працантаў, каб у адзін і той-жа час занесці сельсовет і на чырвоную дошку і ў лік «ганебных зрыўшчыкаў». (А праз некалькі тыдняў «зрыўшчыкі» аказваюцца ў ліку прэміраваных. Ясна, што такі падыход зусім не спрыяе выхаванню кадраў.

Гэта было ў дні сяўбы. Аб гэтым цяпер няварта было-б успамінаць, калі-б у газеце і цяпер не паўтарылася практыка агульнага, безадказнага падыходу да людзей, да работнікаў.

Даючы матэрыялы аб дрэннай арганізацыі прапалкі ўраджаю ў Чачэвіцкім сельсовеце, газета робіць агульны вывад:

> **«Старшыні калгасаў дрэнна кіруюць і работу пусцілі на самацёк».**

Хто з старшынь дрэнна кіруе і ў чым заключаецца гэта дрэннае кіраўніцтва прапалкай—з газеты так і нельга бачыць. Няўжо гэта ёсць дапамога кіраўнікам калгасаў у наладжанні работы? Куды лягчэй, зразумела, замест выхавання старшынь калгасаў абвінаваціць іх агулам у тым, што яны не ўмеюць кіраваць.

Было-б зусім іншае, калі-б замест агульнага беспадстаўнага абвінавачання ў няўменні кіраваць газета дала разгорнуты паказ, **як трэба і як не трэба кіраваць калгасам.** Рэдакцыі газеты **«Маяк комуны»** неабходна напомніць указанне правадыра аб тым, што:

«Лозунг «кадры вырашаюць усё» патрабуе, каб нашы кіраўнікі праяўлялі самыя клапатлівыя адносіны да нашых работнікаў, і «малых» і «вялікіх», у якой-бы галіне яны ні працавалі, вырошчвалі іх клапатліва, дапамагалі ім, калі яны адчуваюць патрэбу ў падтрыманні, заахвочвалі іх, калі яны паказваюць першыя поспехі, высоўвалі іх уперад і т. д.».

У тым-жа артыкуле, дзе абвінавачваюцца ўсе старшыні Чачэвіцкага сельсовета ў няўменні кіраваць, адзначаецца:

> **«Зусім недапушчальна абстаіць справа ў калгасах з выпускам насценгазет. За ўсю пасеўную кампанію ні ў адным калгасе не выпусцілі ніводнага нумара насценгазеты».**

Вельмі цікава, што-ж зрабіла рэдакцыя раённай газеты, якая аказана дапамога работнікам нізавога друку і чаму аб гэтым у рэдакцыі ўспомнілі пасля пасеўнай? Дапамагаць нізавому друку, выхоўваць кадры калгасных рэдактароў — гэта-ж прамы абавязак рэдакцыі.

Але паглядзім, як вядзе сябе рэдакцыя ў адносінах калгасаў Чачэвіцкага сельсовета далей. Калі ў нумары газеты за 9 чэрвеня калгасы Чачэвіцкага сельсовета абвінавачваліся ў тым, што «да гэтага часу ні ў адным калгасе не прыступілі да арганізацыі прапалкі», то праз два дні старшыні калгасаў зноў усе агулам абвінавачваюцца газетай у няўменні спалучаць прапалку з падрыхтоўкай да ўборкі.

Забыццё жывых людзей для газеты «Маяк комуны» не з'яўляецца выпадковым. У артыкулах, прысвечаных падрыхтоўцы уборачнай кампаніі, газета ўспамінае гумны, свірны, калёсы, жняяркі, граблі, косы, вяроўкі і ўвесь іншы інвентар, неабходны для ўборкі. Аб гэтым, зразумела, трэба пісаць, але газета ўпускае галоўнае — **людзей, кадры, якія будуць працаваць на гэтых машынах.** Трэба напомніць рэдакцыі «Маяк комуны» словы т. **Сталіна:** «Каб прывесці тэхніку ў рух і скарыстаць яе да дна, патрэбны людзі, ўладаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і скарыстаць тэту тэхніку па ўсіх правілах мастацтва».

—□□□□—

## У ДАПАМОГУ РАБОТНІКУ РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ

# РАЁННАЯ ГАЗЕТА НА ЎБОРЦЫ

Савецкая Беларусь уступіла ў адказнейшы перыяд сельскагаспадарчых работ — перыяд уборкі ўраджаю і дзяржаўных загатовак.

Ва ўборку і загатоўкі калгасы і соўгасы нашай рэспублікі ўступілі сёлета, маючы непараўнальна большую тэхнічную аснашчонасць, чым ва ўсе мінулыя гады. Досыць указаць, што сёлета на соцыялістычных палях Беларусі працуюць трактары і машыны 88 машынатрактарных станцый.

Лепш абстаіць справа і з арганізаванасцю работы ў калгасах і соўгасах. Калгасы нашай краіны ўжо многа зрабілі ў справе свайго арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання. У гэтым сказваецца велізарная работа, прароблепая бальшавікамі Беларусі на чале з выпрабаваным сталінцам тав. **Гікало,** штодзённая барацьба за практычнае ажыццяўленне гістарычнага лозунга тав. **Сталіна** аб тым, каб зрабіць усе калгасы бальшавіцкімі, а калгаснікаў заможнымі.

Непазнавальнымі сталі і людзі нашай калгаснай вёскі. Узрасла працоўная дысцыпліна ў калгасах. Надзвычай вырасла зацікаўленасць калгаснікаў ва ўмацаванні сваёй агульнай арцельнай гаспадаркі, у першачарговым выкананні сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай. Вырасла адданасць мас калгаснікаў нашай партыі, нашай соцыялістычнай радзіме, адданасць вялікаму правадыру народу таварышу **Сталіну.**

Усё гэта гаворыць аб тым, што Савецкая Беларусь мае ўсе магчымасці поўнасцю, да апошняга коласа ўбраць сёлетні багаты ўраджай і выканаць дзяржаўныя загатоўкі ў тэрміны, устаноўленыя партыяй і ўрадам, і **адной з першых** у радзе перадавых рэспублік, абласцей і краёў Савецкага Саюза.

Толькі ворагі нашай партыі і дзяржавы, ці безнадзейныя дурні могуць меркаваць, што ўборка ўраджаю і загатоўкі — дробная задача, што яны будуць выкананы самацёкам.

Пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), а затым і пленума ЦК КП(б)Б прадугледжваюць усю адказнасць, усе труднасці і асаблівасці сёлетняй уборкі і загатовак. Гэтыя пастановы побач з надзвычайна **канкрэтным** вызначэннем задач партыйных, савецкіх і гаспадарчых арганізацый ва ўборцы і загатоўках з усёй бальшавіцкай вастрасцю папярэджваюць партарганізацыі аб **небяспецы благадушнасці, самаўпэўненасці, небяспецы спадзявання на так званы самацёк.**

Рашэнні чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і пленума ЦК КП(б)Б ёсць баявая **праграма** дзейнасці і канкрэтны **план** работ у час уборкі і загатовак для ўсіх партарганізацый і для ўсяго нашага друку.

Якавы-ж канкрэтныя задачы нашых раённых газет, што выцякаюць з задач сёлетняй уборачнай і загатоўчай кампаніі?

Першая найбольш адказная задача заключаецца ў мабілізацыі шырокіх мас калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў на выкананне ўборкі і загатовак у **тэрміны, вызначаныя партыяй і ўрадам.** Раённыя газеты павінны весці ўборачную і загатоўчую кампанію пад лозунгам: убраць увесь ураджай **без малейшых страт,** убраць **да апошняга коласа, да апошняга каліва ільну, да апошняй бульбіны** і выканаць планы дзяржаўных загатовак **датэрмінова і самай добраякаснай прадукцыяй.**

Раённыя газеты павінны ўзначаліць магутны ўздым энтузіязму калгасных мас, выкліканы ўзнагараджэннем БССР ордэнам Леніна, і арганізаваць шырокае соцыялістычнае спаборніцтва соўгасаў і калгасаў па лепшае і хутчэйшае праядзенне ўборкі і выканання загатовак. Яны павінны паказваць лепшыя калга-

сы і соўгасы, лепшыя брыгады, лепшых калгаснікаў і кіраўнікоў і на іх прыкладзе мабілізоўваць усю масу калгаснікаў.

Раённыя газеты павінны бязлітасна выкрываць і даваць адпор малейшым спробам класавага ворага адсунуць інтарэсы пролетарскай дзяржавы на задні план, спробам здаваць дзяржаве нядобраякасную прадукцыю.

Раённыя газеты павінны ўзяць пад свой непасрэдны кантроль ход уборкі і загатовак, своечасова выкрываючы канкрэтныя недахопы арганізацыі ўборачных і загатоўчых работ, канкрэтныя недахопы кіраўніцтва гэтымі работамі.

Нарэшце, задача раённых газет — мабілізаваць сваіх селькораў, калгасныя і брыгадныя насценгазеты на барацьбу за поспех уборкі і загатовак.

Ці ўсе раённыя газеты БССР як належыць выконваюць гэтыя свае асноўныя задачы? Факты з практыкі работы асобных раённых газет гавораць далёка не ў карысць апошніх.

У **Быхаве** выходзіць раённая газета **«Маяк комуны».** Рэдакцыя «Маяка комуны» дапусціла рад памылак, якія гавораць аб неразуменні ёю задач газеты ў справе кіраўніцтва ўборкай і загатоўкамі. Быхаўская газета, напрыклад, у **адзін і той-жа час адны і тыя-ж сельсоветы і калгасы заносіць і на чырвоную і на чорную дошкі.** Які аўтарытэт у такім выпадку мае сама ідэя чырвонай і чорнай дошкі ў быхаўскай газеце?

На старонках «Маяка комуны» часта можна ўбачыць агульнае абвінавачанне кіраўнікоў цэлай групы сельсаветаў і калгасаў у няўменні кіраваць і т. д. Газета пры гэтым не паказвае ў чымжа недахопы работы **кожнага кіраўніка паасобку,** а ахайвае іх **наогул.**

Прыглядзімся бліжэй да старонак «Маяка комуны». На першы погляд быццам усё ў парадку: газета піша, і піша нямала, аб жняярках, сярпах, косах, малатарнях і т. д. Аб чым-жа газета **не** піша? Не піша газета аб **людзях,** аб **кадрах,** якія працуюць на гэтых машынах. Газета выпускае **галоўнае, рашаючае звяно.**

Указаныя недахопы быхаўскай газеты выцякаюць з таго, што газета працягвае працаваць **па-старому,** што работнікі рэдакцыі не прадумалі глыбока і не зрабілі вывадаў для сябе з пастаноў пленума ЦК ВКП(б) і прамовы тав. Сталіна аб кадрах.

Уборку і загатоўкі трэба **арганізаваць** — такава першая запаведзь комуніста, кіраўніка, раённай газеты сёння. Ці спрыяе арганізацыі загатовак метад агульнага падыходу, падыходу выключна з аналізу зводкі, які практыкуе рэдакцыя «Маяка комуны»? Зразумела, не.

Возьмем **сенненскую** раённую газету **«Комунар».** Толькі нядаўна ў «Звяздзе» апублікаван матэрыял аб тым, што старшыня сенненскага РВК т. **Качук,** наперакор чоткаму ўказанню пленума ЦК КП(б)Б, прымушае калгасы раёна церабіць **зялёны** лён. Гэты факт ёсць адно з праяўленняў антыдзяржаўных тэндэнцый. Гэта кожнаму ясна. Мы паглядзелі, як-жа рэагуе раённая газета «Комунар» на адкрытую антыдзяржаўную практыку ў сваім раёне. **Газета не ўбачыла ў гэтых фактах антыдзяржаўнага ўчынку.** Наадварот — на старонках «Комунара» друкуюцца заметкі аб «перадавых» калгасах Ульянаўскага, Немайцянскага і Гарывецкага сельсоветаў, якія першымі ў раёне пачалі церабленне ільну. І ні слова аб тым, што гэтыя калгасы робяць **антыдзяржаўную справу,** церабячы **зялёны** лён, ні слова аб антыпартыйным і антыдзяржаўным распараджэнні старшыні райвыканкома.

Памылкі «Маяка комуны» і «Комунара» павінны паслужыць урокам для ўсіх раённых газет БССР.

Кожная раённая газета павінна добра памятаць і пакласці ў аснову сваёй работы ўказанне чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што **«планы загатовак будуць выкананы поўнасцю і ў тэрмін толькі ў тым выпадку, калі будзе забяспечана належная ахова ўбранага хлеба ад разбазарвання і раскрадвання, калі будуць мабілізаваны калгасныя масы і соўгасныя рабочыя на барацьбу з кулацка-рвацкімі настроямі, накіраванымі на падрыў справы загатовак, калі будзе выгнан з практыкі загатовак так званы самацёк, калі загатоўкі будуць арганізаваны па-сапраўднаму, па-большэвіцку».**

# ПЕРАПІСКА З РЭДАКТАРАМ



# За якасць газетнай паласы

### АДКРЫТАЕ ПІСЬМО РЭДАКТАРУ ПЕТРЫКОЎСКАЙ РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ. ТАВ. А. КАРПІКАВУ

Са старонак раённай газеты «Калгаснік Петрыкоўшчыны» амаль зніклі рабселькораўскія пісьмы. Чатыры старонкі газеты ў большасці запаўняюцца артыкуламі работнікаў рэдакцыі, пад якімі часта стаяць літары **«А. К.»** і **«ЭЛ-КА»**. Не трудна дагадацца, што гэта творчасць аднаго і таго-ж работніка рэдакцыі.

Вось падвал аўтара А. К. у нумары 45 за 2 чэрвеня пад назваю **«Камуніст Грэчка»**. У гэтым артыкуле тав. Карпікаў хацеў расказаць аб непартыйных адносінах камуніста Грэчка да людзей, якія знішчаюць калгасныя пасевы. А выйшла, што аўтар больш заняўся непатрэбнай перадачай сваркі дзесятніка дарадзела **Дарожкі** з старшынёй калгаса **Тарасевічам.**

Чаму-б замест гэтых 180 радкоў, якія занялі падвал аб Грэчку, не даць матэрыял на 30 радкоў, а плошчу ў 150 радкоў даць для пісем рабселькораў?

У тым-жа нумары ёсць другі матэрыял, ужо за подпісам **«ЭЛ-КА»**. Артыкул дан пад назвай «За сярэднімі лічбамі выканання плана не бачуць — адстаючых». Тут на працягу 195 радкоў перадаецца зводка выканання плана сяўбы па ўсіх сельсаветах раёна. Розніца паміж звычайнай зводкай і гэтым матэрыялам тая, што зводка дала-б больш карысці, бо ў гэтым матэрыяле заблытваешся, пакуль прачытаеш два абзацы.

Ці не лепш было-б усё гэта падаць у выглядзе зводкі і заняць ёю 25 радкоў, а астатнія 170 радкоў прадаставіць рабселькорам?

Яшчэ адна акалічнасць. Мы лічым, што раённая газета завельмі многа сваёй плошчы аддае для змяшчэння розных афіцыяльных матэрыялаў. Важныя пастановы партыі і ўрада газета абавязана друкаваць, але запаўняць пастановамі ўсе паласы газеты (як напрыклад, у № 49) — гэта ўжо занадта. А ў Петрыкаве што ні нумар, то тры-чатыры пастановы. Гэта—у лепшым выпадку.

Цяпер аб граматнасці матэрыялаў «Калгаснік Петрыкоўшчыны». Большасць матэрыялаў асабліва «шапкі» і загалоўкі ў вас падаюцца зусім бяграматна. Многія з іх пазбаўлены ўсякага сэнсу. Чаго, напрыклад, варта такая «шапка» з № 29: **«Кожную хвіліну выкарыстоўваць для сплава веснавую воду»?** А чым лепшая «шапка» з № 48: «Па-бальшэвіцку выканаць планы мяса, малака пастаўкі і дарбудаўніцтва». Многа памылак і ў самым тэксце газеты. Відавочна, літаратурныя работнікі вашай рэдакцыі не ведаюць, што нельга пісаць **«паняў»**, а трэба пісаць **«зразумеў»**, што замест **«уйсці»** трэба пісаць **—«пайсці», замест «ізноў», «узноў»— «зноў», замест «не правярая падпісываў» — «не правяраючы падпісваў», «па ту сторану» — «па той бок», «учуўшы» — «пачуўшы», «разрашэнне праблемы» — «вырашэнне праблемы», «уютная» — «утульная» і т. д. і т. д.**

Адсюль адзін вывад: **трэба ўзяцца вывучаць граматыку і правапіс, узяцца неадкладна і па-сапраўднаму.**

№ 50 «Калгасніка Петрыкоўшчыны» названы вамі **«спецыяльным выпускам, прысвечаным раённаму злёту знатных людзей Петрыкоўшчыны»**. Мы ўважліва прагледзелі першую старонку. Аб знатных людзях Петрыкоўшчыны тут ні слова, хоць «шапка» над старонкай агалашае: «Удзельнікам раённага злёта знатных людзей Петрыкоўшчыны палкае бальшэвіцкае прывітанне».

А паглядзіце што робіцца на развароце гэтага нумара! Доўга мы думалі над тым, што газета хацела паказаць гэтым разваротам. І мы прышлі да адна-

душнай згоды, што ён з'яўляецца ўзорам таго, як не трэба скарыстоўваць дэфіцытную паперу, адпускаемую газеце. На развароце змешчаны, відавочна, усе вашы запасы клішэ з першых дзён існавання газеты. Пад клішэ на рэдкасць бязграматныя вершыкі, аншлагі і «шапкі» (як **«Очко-втерацелі»**, **«Берагі ўраджай...»**, **«Учэсць факты расхлябанасці»...** і інш.).

Не на многа лепш удаўся і святочны нумар за 11 ліпеня. 11 ліпеня 1935 года для Совецкай Беларусі было святам не толькі 15-годдзя вызвалення Беларусі ад белапалякаў, а і днём уручэння БССР вышэйшай узнагароды партыі і ўрада — Ордэна Ленiна. Аднак, гэтага ў святочным нумары «К. П.» не відаць. Толькі ў «шапцы» ды ў двух-трох мясцах тэкста, між іншым, успамінаецца аб уручэнні БССР ордэна Леніна.

Гэта-ж палітычная блізарукасць рэдакцыі прыводзіць і да цэлага раду другіх палітычных памылак. У артыкуле т. Фрыдмана (нумар за 11 ліпеня) гаворыцца: «Як цяжка было раней да рэволюцыі жыць яўрэям». Пара, таварышы, ведаць, што да рэволюцыі жылося дрэнна **працоўным** яўрэям, чаго нельга сказаць пра яўрэяў капіталістаў, банкіраў, рабінаў, спекулянтаў. Гэту ісціну ведаюць совецкія дзеці, не можа не ведаць рэдактар і кожны работнік раённай газеты.

Пералічаныя намі факты — толькі частка ўсіх тых ляпсусаў і памылак, якія ёсць на старонках «Калгасніка Петрыкоўшчыны». Але і гэтых дастаткова для таго, каб рэдакцыя зрабіла адпаведныя вывады ў сэнсе павышэння палітычнай і літаратурнай граматнасці кожнага работніка раённай газеты, а ацюль і паляпшэння самой газеты.

**А. ДАМБРОЎСКІ, Ф. КЛІМЯНОК.**




Няўдалы разварот у 50 нумары газеты «Калгаснік Петрыкоўшчыны». Уся 2 і 3 старонкі заняты рознымі старымі клішэ. Пад клішэ даны зусім няграматныя вершаваныя подпісы.

## ГАЗЕТА Ў НОВЫМ РАЕНЕ

★ ★ ★

# Рэдакцыя на пасёлку

□ □ □ **А. МАТУСЕВІЧ** □ □ □

У пошуках рэдакцыі раённай газеты **«Сталінец»**, мы накіраваліся ў раённы цэнтр Ветрына. Увайшлі ні то ў пасёлак, ні то ў вёску. У ёй два дзесяткі раскіданых па ўзгор'ю калгасных двароў. Між звычайных сялянскіх хат два-тры дамы гарадскога тыпу. Мы трапілі ў раённы цэнтр новага ільнаводчага раёна.

Але дарэмна вы будзеце шукаць тут рэдакцыю раённай газеты. Першы спатканы намі пісьманосец ужо даў вычарпальную даведку:

— Вам у рэдакцыю? Калі ласка. Ідзіце на пасёлак, у МТС... Тры кілометры адсюль...

Ідзем у МТС. На краю новага пасёлка машына-трактарнай станцыі стаіць не вельмі ўтульны домік. Няветліва пазіраюць яго вокны барачнага тыпу. Каля ўваходу ніякага ўпрыгожання, ніякіх адзнак таго, што ў сярэдзіне гэтага будынку сплятаюцца ніці і нервы палітычнага і грамадскага жыцця раёна. І толькі глухое бомканне астаўшайся ў спадчыну невялічкай палітаддзельскай «амерыканкі» напамінае нам аб наяўнасці тут «мясцовай паліграфбазы». Аб ёй мы пагаворым больш падрабязна, а зараз спынімся на рэдакцыі раённай газеты «Сталінец»; паглядзім у якіх умовах яна працуе, з чаго пачынаецца і чым завяршаецца працоўны дзень яе работнікаў.

### 1. РАБОЧЫ ДЗЕНЬ і ФІЗКУЛЬТУРНАЯ ЗАРАДКА

Рабочы дзень усіх чатырох работнікаў ветрынскай раённай газеты пачынаецца з абавязковай «фізкультурнай зарадкі». Яна выражаецца ў форме пешай хадзьбы. Штодня работнікі рэдакцыі адмерваюць ад 5 да 7 кілометраў, ідучы з дому на работу. Вечарам пасля работы зарадка паўтараецца.

У свой час работнікі газеты акрылілі сябе надзеямі атрымаць памяшканне для рэдакцыі ў раённым цэнтры — там, дзе штодня бываюць дзесяткі і сотні калгаснікаў, дзе нараджаецца культурны і адміністрацыйны цэнтр раёна Але не вышаў гэты варыянт. Райвыканком адкінуў прапанову раённай ветэрынарнай лячэбніцы, якая, улічваючы становішча рэдакцыі, меркавала ўшчыльніцца і адзін з сваіх дамоў адпусціць пад рэдакцыю. Тав. **Шчэцько** ад імя райвыканкома аўтарытэтна заявіў:

— Нельга гэтага рабіць. У нас ветэрынарыя — адказны ўчастак.

На гэту рэпліку наследаваў пратэст з боку не менш адказнага ўчастку — рэдакцыі раённай газеты. І на гэтым скончылася барацьба за памяшканне для рэдакцыі. Аспрэчваемы каменны дом і па сёння стаіць напалову незагружаны, а рэдакцыя па-ранейшаму асталася на пасёлку, за некалькі кілометраў ад раёна

І ходзяць чатыры яе работнікі, уключаючы адказнага рэдактара тав. **Шэўчэнка** і яго памесніка тав. **Адася**, на другі бок Ветрына на сваю кватэру, а адтуль зноў на другі бок раённага цэнтра — на работу ў рэдакцыю.

### 2. РАБОЧЫ ДЗЕНЬ ПАЧАЎСЯ

Па аднаму, па два—хто пешаходам, хто на веласіпедзе сабраліся ўрэшце работнікі раённай газеты. Папрыходзілі наборшчыкі, вучні друкарні. У рэдакцыі пачынаецца рабочы дзень.

У невялічкім пакойчыку, дзе змяшчаецца два сталы і тры крэслы на чатырох чалавек, заўважаецца мітусня. Прышоў старшы наборшчык і падаў першы сігнал:

— Набор давайце, людзі стаяць!

Тав. **Бураў**, загадчык сельскагаспадарчым аддзелам газеты, стаіць ля дашчатай перагародкі сцяны і мяркуе: ехаць сёння ў сельсовет ці не? Раптам ён схамянуўся. Скрозь дзіркі дашчатых перагародак пачулася храпенне людзей. Аказалася ўначы ў МТС прыехалі кур-

санты-ільноцерабільшчыкі. Яны, як і звычайна пры скліканні розных курсаў, занялі суседні з рэдакцыяй пакойчык і распалажыліся па адпачынак. У дзень тут пачнуцца галосныя чыткі, даклады і гутаркі, а ўвечары пасля вучобы — гульні пад гармонік.

— Зноў курсы, зноў хоць ты ўцякай з рэдакцыі, — абураецца ў такі час тав. Бураў. — Ніякай работы, ніякай прадукцыйнасці.

Ён ужо зараз прадбачыць як яму, літаратурнаму работніку газеты, прыдзецца афармляць свой матэрыял пад гукі гармоніка і скокі «яблычка». Два дні назад нават перадавы артыкул рэдактар пісаў пад водгулле даклада аб значэнні на ўборцы ільноцерабілак.

У невялічкім чатырохметравым пакойчыку МТС расмясцілася ўся рэдакцыя раённай газеты. А за дзіравай перагародкай ідуць заняткі курсантаў; побач жыве сям'я шофера з дзецьмі. Такавы ўмовы работы рэдакцыі ветрынскай раённай газеты. За ўмоўнымі сценкамі пакоя рэдакцыі праводзяцца сістэматычна склікаемыя дырэкцыяй МТС курсы кіруючых кадраў сельскай гаспадаркі. У раёне загаварылі аб павышэнні іх кваліфікацыі. Але ніхто не думае аб умовах работы рэдакцыі раённай газеты. І рэдакцыя звыклася з такім становішчам рэчаў. Яна, па волі раённага кіраўніцтва, адгарадзілася ад раённага цэнтра адлегласцю ў тры кілометры і замаскавалася недзе «там на пасёлку», як звычайна адказваюць селькорам работнікі ветрынскай пошты.

### 3. АБ ЧЫМ ПАШКАДАВАЎ ТАВ. АДАСЬ

Тав. Адась — намеснік адказнага рэдактара газеты «Сталінец». Сабраўшыся ў цесным коле работнікаў раённай газеты, мы гутарым аб умовах работы, аб якасці матэрыялаў газетнай паласы «Сталінца».

Гутарка зайшла **аб тэматыцы газеты**. Уважліва праглядаючы камплект, мы сустрэлі вельмі арыгінальную заметку аб рабоце рыбацкай арцелі аднаго з калгасаў раёна «Рыбакі калгаса «Окцябр» атрымалі прэмію». Заметка ў надзвычай сціслай форме расказвала як рыбацкая арцель калгаса дабіваецца рэкорднай лічбы ўлову. За першы квартал арцель выканала план улову на 132 проц. **За мінулы год калгас меў ад рыбалоўства 43.200 руб. чыстага прыбытку**. У гэтым годзе калгас атрымае за рыбу да 62 тыс. рублёў.

Ведаючы, што ў Ветрынскім раёне вельмі многа азёр, багатых рыбай, мы пацікавіліся, як-жа займаецца гэтай галіной народнай гаспадаркі раённая газета. У гутарцы выяснілася, што ў раёне ёсць калгасы, якія за адзін улоў бяруць па 500 і больш пудоў высокакаштоўнай рыбы. Азёры раёна ўжо сёння даюць калгаснаму сялянству дзесяткі і сотні тысяч рублёў прыбытку. Правільная эксплаатацыя гэтых азёр павялічыць прыбыткі ў два-тры разы.

Што магла зрабіць раённая газета падхапіўшы адно з такіх ініцыятыўных пытанняў? Змагаючыся за правільнае вядзенне рыбнай гаспадаркі, за скарыстанне калгасным сялянствам усіх крыніц уздыму сваей эканомікі, газета магла падмацаваць арганізаваны ёю матэрыял жывымі прыкладамі з перадавых калгасаў раёна. К вялікаму жалю, газета гэтага не зрабіла. І тав. Адась, разводзячы рукамі, вымушан быў прызнацца:

—Вось гэта мы неяк сапраўды выпусцілі з-пад увагі. У бліжэйшы час абавязкова арганізуем паласу.

Аднак, прайшоў тыдзень, другі, прайшоў месяц, а абяцаная паласа не з'явілася.

У штодзенным жыцці калгасаў Ветрынскага раёна ёсць многа цікавейшых падзей, аб якіх з поспехам можна было-б расказаць на старонках раённай газеты У адным калгасе пабудавалі лазню, у другім — новую школу, у трэцім далі рэкордны ўраджай, у чацвертым—ёсць свой калгасны парк, моладзь і старыя арганізавалі разумны і культурны адпачынак. Аб усім гэтым хоча і павінен ведаць чытач раённай газеты. Газета-ж «Сталінец» неяк абыходзіла гэтыя пытанні. І толькі пасля нашай гутаркі аб якасці газетнай паласы, аб пашырэнні тэматыкі газеты на старонках «Сталінца» з'явіліся 2-3 новыя аддзелы, сярод якіх і **«навіны па раёну»**. Гэты аддзельчык насычаны баявым зместам з жыцця ўсяго раёна, павінен паказваць велізарныя зрухі, якія адбываюцца штодня ў быту калгасніка, у яго эканоміцы, у культуры.

Пашырэнне тэматыкі — неабходнейшая ўмова паляпшэння ўсяго зместу раённай газеты.

### 4. АБ КАРЭКТАРЫ, ДРУКАРСКІХ ПАМЫЛКАХ І ПАЛІГРАФБАЗЕ

Як правіла, у штаце рэдакцыі ветрынскай газеты **няма пасады карэктара.** Газету ў большасці **карэктуе сам рэдактар** Толькі нядаўна на работу карэктара рэдакцыя запрасіла прыбыўшую ў адпачынак студэнтку. Але і яна працуе часова Пачнуцца заняткі ў школах і рэдакцыя зноў астанецца без карэктара.

Адсутнасць у газеце карэктара сказваецца не толькі на асноўнай кіруючай рабоце рэдактара. Гэта сказваецца і на якасці кожнай заметкі, кожнага радку газетнай паласы. Памылка за памылкай так і стракацяць не толькі ў тэксце, але і ў загалоўках. Замест **«За граніцай»** чытачу падаецца загаловак **«За гарніцай»**, замест слоў **«разбітаму, але недабітаму кулаку»** падаецца такі варыянт: **«разбітаму, але не разбітаму кулаку»** і т. д.

Не абыходзіцца і без казусаў у пераносах. Увесну чытачы газеты «Сталінец» прачыталі ў адной заметцы не зусім зразумелы ім сказ: **«Аркестр грае папу».** Што-ж хацела сказаць рэдакцыя! А проста. што **«Аркестр грае папуры».** Падвёў, выходзіць, карэктар, праўшчык, які не паставіў пераносаў або канчатак «ры» не ўвагналі ў адзін радок.

Мы ўжо гаварылі аб надзвычай беднай паліграфбазе ветрынскай газеты Мала таго, што ў друкарні няма адпаведнай плоскай машыны, друкарня не ўкамплектавана нават і неабходнейшымі шрыфтамі. Газета дажывае спадчыну палітаддзельскай газеты. Фармат раённай газеты павялічыўся, тэрміны выхаду пачасціліся. А ў абсталяванне былой палітаддзельскай друкарні нічога не прыбавілася. Звароты рэдакцыі ў Белпаліграф трэст канулі ў паветры. І ў рэзультаце, як і год назад, друкарня набірае і друкуе раённую газету па адной паласе. Такі прымітыўны спосаб выпуску газеты зніжае яе аператыўнасць і якасць яе паліграфічнага афармлення і друку.

**
*

«Сталінец» — газета новага ільнаводчага раёна. Ад якасці работы газеты будзе ў значнай ступені залежаць і якасць выканання раёнам важнейшых гаспадарча-палітычных задач. Рэдакцыя-ж ветрынскай газеты, апынуўшыся на пасёлку, адгарадзілася ад раённых арганізацый адлегласцю некалькіх кілометраў, адгараджваецца і ад калгаснага актыва наведваючага раённыя ўстановы і арганізацыі. Рэдакцыя «Сталінца» не мае адпаведнага памяшкання, яе паліграфбаза надзвычай бедная. І таму данамога раённай газеце шрыфтамі, забеспячэння яе адпаведным памяшканнем, урэшце людзьмі, кадрамі — неадкладная справа раённай партыйнай арганізацыі, Белпаліграфтрэста, усяго складу самой рэдакцыі газеты.

# З ЧАГО ТРЭБА БЫЛО ПАЧАЦЬ

□ □ □ **М. САКАЛОЎСКІ** □ □ □

Рэдактар **грэскай** раённай газеты «Сталінец» тав. Сукаў прыехаў у новаарганізаваны раён 15 красавіка. Рэдактар не застаў у раёне ні друкарні, ні шрыфтоў, ні наборшчыкаў. Усё трэба было пачынаць з пачатку, усё трэба было набываць, пачынаючы з друкарскай машыны і шрыфтоў і канчаючы лямпатым шклом. Месяц беганіны, паездак, клопатаў і, нарэшце, набыта амерыканка, шрыфты, падабран штат рэдакцыі і друкарні. 15 мая вышаў першы нумар газеты.

Маладой раённай газеце «Сталінец» яшчэ многага не хапае для нармальнай работы. Шрыфтоў хапае толькі на двухпалосны нумар. Недахват літар а, ы, ў, к, у. Няма кароткіх лінеек. Белпаліграфтрэст на патрабаванні забяспечыць новаарганізаваную друкарню ўсім

неабходным адказвае нязменным— «няма».

Няма кіраўніцтва і дапамогі і з боку райкома партыі і райвыканкома. Затое райком ніколі не мінае т. Сукава пры пасылцы ўпаўнаважаных у сельсоветы. Рэдактар-жа з'яўляецца штатным афарміцелем пастаноў райкома. І гэта ў той час, калі рэдакцыя не мае ні аднаго больш-менш кваліфікаванага работніка.

Вось людзі рэдакцыі «Сталінца». Сакратар рэдакцыі т. **Скрыган** да рэдакцыі працаваў піонер-работнікам у няпоўнай сярэдняй школе. Інструктар т. **Санько** скончыў шасцімесячныя настаўніцкія курсы. Другі інструктар т. **Кашлач** скончыў толькі 4 групы няпоўнай сярэдняй школы. Таварышы не маюць ніякай газетнай падрыхтоўкі, вопыта газетнай работы і, натуральна, маюць асаблівую патрэбу ў вучобе, у выхаванні.

І вось на вучобе і вырошчванні маладых кадраў рэдакцыі асабліва адбіваецца тое, што т. Сукаў часта адрываецца райкомам партыі ад сваёй непасрэднай работы.

Аднак, гэтым нельга апраўдваць усіх недахопаў першых крокаў работы рэдакцыі. З чаго павінна была пачаць новая раённая газета? Галоўным чынам з работы з рабселькорамі, з наладжання з імі сувязі, як непасрэдна на месцах, так і праз індывідуальную перапіску. Гэта не зроблена, учоту рабселькораў няма. Перапіска таксама не наладжана. Можа ў Грэскім раёне няма яшчэ рабселькораў? Няпраўда. На тэрыторыі Грэскага раёна ёсць многа селькораў, якія да стварэння Грэскага раёна пісалі ў слуцкую, капыльскую газеты. Цяпер яны хочуць прымаць актыўны ўдзел у газеце «Сталінец». Задача-ж газеты пайсці насустрач селькорам, завязаць з імі сувязь, узяцца за іх вучобу.

Але гэтага не робіць рэдакцыя «Сталінца». Наколькі газета не дацэньвае сваю асноўную базу — рабселькораў—сведчыць наступны факт. У першым нумары змешчан перадавы артыкул «На барацьбу за далейшыя перамогі», артыкул, які вызначае задачы газеты. І ў гэтым артыкуле няма ні аднаго радка, ні аднаго слова аб рабселькорах і нізавым друку.

Зусім зразумела, што пры такой настаноўцы справы няма чаго і гаварыць аб колькі-небудзь выдатных узорах работы рабселькораў і нізавога друку ў раёне. Чарговыя нумары лепшых насценных газет (напрыклад, калгаса «Баявік») вышлі каля месяца таму назад. Ва многіх калгасах насценныя газеты зусім спынілі выхад.

Рэдакцыя мяркуе ў ліпені правесці раённы злёт рабселькораў. Мяркуюць на злёце паставіць даклад аб чарговых задачах рабселькораў. Мы хацелі-б зрабіць невялічкую папраўку да гэтага парадку дня.

Мала гаварыць аб агульных задачах рабселькораў. Рабселькораў трэба вучыць на канкрэтнай рабоце, вырошчваць іх, выхоўваць з іх сур'ёзных кваліфікаваных аўтараў. І таму на гэтым першым раённым злёце трэба паставіць і такое пытанне: **як і аб чым пішуць рабселькоры ў «Сталінец» і як і аб чым трэба пісаць.** Трэба навучыць і дапамагчы рабселькорам з многіх пытанняў выбіраць асноўныя, важнейшыя на даным адрэзку часу. Селькораў трэба вучыць умець востра і прыгожа падаваць матэрыял, вучыць іх майстэрству фельетона, нарыса і т. д.

Цяпер-жа газета «Сталінец» яшчэ абмінае многа важных фактаў і падзей з жыцця свайго раёна. Падамо некалькі прыкладаў.

Клопаты аб людзях, аб кадрах—важнейшая задача, пастаўленая тав. Сталіным. А колькі ёсць выпадкаў няўвагі да жывых людзей, нават у самым раённым цэнтры—Грэску, не гаворачы аб раёне.

У ўдзельніка партызанскага руху, бацькі расстралянага белапалякамі пар-

тызана—т. Тішкевіча Емельяна распухла нага. Жыве ён у самым Грэску. І вось замест таго, каб неадкладна аказаць яму дома медыцынскую дапамогу, бяздушныя чыноўнікі сказалі яго жонцы, каб яна прывезла мужа ў амбулаторыю. Яна ледзь угаварыла брыгадзіра даць каня. Той, каб адчапіцца, даў такога каня, што ён чуць дацягнуўся да амбулаторыі. У гэты час пашоў дождж. І хворы, разбіты чалавек прамок да касцей, пакуль давезлі яго да амбулаторыі.

Гэта-ж вострая тэма для газеты. Але падобных тэм няма яшчэ на старонках «Сталінца».

Або ўзяць пытанне барацьбы за разгортванне савецкай дэмакратыі. Тут у раёне таксама ёсць парушэнні. Падамо прыклад. 22 чэрвеня праходзіў агульны сход калгаснікаў калгаса «Чырвоны працаўнік», Грозаўската сельсовета. Абмяркоўваецца пытанне: на якія грамадскія патрэбы скарыстаць грошы самаабкладання. Выносяцца некалькі прапаноў: на пабудову лазні, на абсталяванне школы, на набыццё інвентару для пажарнай дружыны і т. д. На галасаванне, аднак, ставіцца толькі апошняя прапанова. Не паспела падняцца некалькі рук, як старшыня схода ўжо абвяшчае:

— Прымаецца апошняя прапанова!

— А чаму не галасуеце прапанову за лазню або за школу? — раздаюцца здзіўленыя галасы. Але на справядлівае абурэнне калгаснікаў самадур—старшыня схода Давідоўскі не звярачае ўвагі і лічыць пытанне вырашаным.

Чаму-ж газеце не ўзяцца за выпраўленне такіх грубых парушэнняў совецкай дэмакратыі, за разгортванне совецкай дэмакратыі?

Газета ўпускае і такія пытанні, як соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Трэба ўказаць газеце яшчэ на адзін буйны недахоп — на дрэнную работу з пісьмамі рабселькораў. Новая газета з першых дзён выхаду павінна была так паставіць работу, каб ніякіх залежаў пісем не было, каб кожнае пісьмо працоўнага дасягала мэты. Аднак, у рэдакцыі «Сталінца» за кароткі тэрмін ужо скапілася каля сотні важнейшых карэспандэнцый, большасць якіх маюць выкрываючы характар. Гэтыя залежы трэба неадкладна ліквідаваць і недапушчаць, каб у рэдакцыі пісьмы залежваліся без руху больш дзесяці дзён.

Трэба больш удумліва працаваць і над змяшчаемымі ў газеце карэспандэнцыямі. Бо нельга-ж так змяшчаць іх, як напрыклад, у нумары за 13 чэрвеня. Вось як падана выступленне калгасніка:

**ПРАТАСЕНЯ.**

**Калгас імя Леніна (Мусіцкі сельсовет). Інвентар адрамантаван. Інвентар да уборачнай гатоў. Жняяркі — 2, адна касілка, 1 грабілка і інш. і цялегі падрыхтаваны псўнасцю. Заканчваецца рамонт адной жняяркі.**

Вось і ўсё выступленне. Рабселькораўская карэспандэнцыя павінна заняць галоўнае месца ў газеце. Але яе трэба арганізаваць, у ёй трэба паказваць людзей, перадаваць вопыт работы перадавікоў, або глыбока аналізаваць прычыны дрэннай работы на тым ці іншым участку. А хіба паданае выступленне адпавядае гэтым патрабаванням? Зразумела, не.

У рабоце рэдакцыі «Сталінца» ёсць і дадатныя бакі. Нядрэнна газета займаецца пытанямі жывёлагадоўлі. На гэту тэму дана некалькі аператыўных падборак, артыкулаў. Так трэба ўзяцца і за асвятленне другіх пытанняў.

Указаныя недахопы будуць зжыты, калі рэдакцыя пачне працаваць планава, крытычна будзе падыходзіць да выпускаемай прадукцыі, наладзіць работу з рабселькорамі і іх вучобу.

Райком партыі ў сваю чаргу павінен дапамагчы раённай газеце, наладзіць кіраўніцтва ёю, не адрываць рэдактара ад яго непасрэднай адказнейшай работы.

# ДАПАМАГЧЫ ГАЗЕЦЕ!

**Е. ВАЛЬФСОН.**

Знаёмства з рэдактарам адбылося так.

— Ці можна бачыць таварыша Шатрукова? — запыталі мы, увайшоўшы ў пакой рэдакцыі новаарганізаванай газеты **«Большэвік» (Капаткевіцкі** раён).

Нам паказалі на дзверы ў суседні пакой. Заходзім. Па знешняму выгляду пакой нагадвае друкарню: «амерыканка», наборныя касы... Ля кас стаяць два чалавекі. Закасаныя па локці рукі густа вымазаны фарбай. Абодва з вярстаткамі ў руках робяць набор.

— Дзе ўсё-такі рэдактар? Мабыць, не туды папалі...

— Папалі вы якраз сюды, — адказаў адзін з наборшчыкаў. А рэдактар я сам і ёсць. Будзем знаёмы! Шатрукоў.

Мы сядзім разам з рэдактарам і гутарым пра жыццё-быццё новаарганізаванай газеты новага раёна. Што і гаварыць, цяжка прыходзіцца рэдактару.

— Набіраць, гэта што! Гэта для мяне — пусцякі! Каб толькі гэта адно было! — гаворыць т. Шатрукоў і расказвае факты абураючых адносін раённых арганізацый да газеты, да рэдакцыі.

Што прымусіла рэдактара стаць з вярстаткай у руках за наборную касу? Друкарня не мае кадраў. Адзін наборшчык, які застаўся ў друкарні, не можа справіцца з наборам нумара. ЦП саюза друкароў прыслала ў капаткевіцкую друкарню кваліфікаванага наборшчыка. Некалькі раз т. Шатрукоў звярачаўся ў райкамгас з просьбай даць наборшчыку кватэру. Кватэры не далі. Чалавек паваляўся некалькі дзён дзе папала і паехаў з раёна.

Не лепшае становішча з кадрамі і ў рэдакцыі. Апрача Шатрукова ў рэдакцыі працуюць толькі два работнікі: сакратар рэдакцыі т. **Андрэйкоў** і тэхнічны работнік т. **Смірнова.** Увесь працэс арганізацыі і падрыхтоўка матэрыялу для газеты, ляжаць на рэдактару, бо абодва таварышы працуюць у газеце некалькі тыдняў і яшчэ не асвоіліся з работай.

Звяртаўся рэдактар у райком комсамола. Прасіў даць некалькі комсамольцаў для работы ў рэдакцыі і друкарні. Сакратар райкамола т. **Гарбуль** не адмовіў рэдактару. Ён абяцае даць людзей. Але словы т. Гарбуля астаюцца толькі абяцаннямі.

Узяўся рэдактар сам падбіраць работнікаў. Падшукаў двух актыўных селькораў, якія падыйшлі-б для работы ў рэдакцыі. І тут не пашлі насустрач рэдакцыі: не адпусцілі таварышоў у рэдакцыю.

Убогае маленькае памяшканне, якое адвялі рэдакцыі, разбіта перагародкамі на тры клетачкі. У адной — габінет рэдактара, у другой — рэдакцыя, у трэцяй — друкарня. Літаральна няма дзе павярнуцца.

— Няма памяшканняў! — вось адказ райвыканкома.

З памяшканнямі ў Капаткевічах справы труднавата. Пабудоў у мястэчку яшчэ мала, а трэба размясціць усе раённыя ўстановы. Але пры жаданні ўсё-ж можна было-б рэдакцыю і друкарню размясціць лепш. Палову дома, у якім знаходзіцца рэдакцыя, займае пазбаўлены выбарчых праў былы нэпман. Але ніхто і не думае аб высяленні лішэнца і аб стварэнні нармальных умоў для рэдакцыі.

Асобныя раённыя арганізацыі не лічацца з раённай газетай, не хочуць дапамагчы ёй. У гэтай справе характэрны такія факты.

22 чэрвеня пошта м. Капаткевічы затрымала на два дні ўвесь тыраж нумара раённай газеты. На трэці дзень пачкі газет звярнулі рэдакцыі, заявіўшы: — не будзем рассылаць! Ледзь удалося рэдактару пераканаць загадчыка райаддзела сувязі **Лёшу** ў

тым, што пошта абавязана даста́ўляць раённую газету падпісчыкам.

Па віне пошты ў некаторых сельсоветах да гэтага часу яшчэ нават не ведаюць пра існаванне газеты «Бальшэвік». Пісьманосцы ў гэтых сельсоветах не прымаюць падпіскі на раённую газету.

Або такі факт. На станцыю Пціч трэба было паслаць падводу за паперай для газеты. Тав. Шатрукоў пашоў у райвыканком прасіць каня. У райвыканкоме рэдактару наадрэз адмовілі. Прышлося заплаціць возчыку сотню рублёў з бюджэта газеты і даставіць паперу.

Як-жа дапамагае газеце Капаткевіцкі райком партыі? Нельга сказаць, што райком не звярачае ўвагі на газету. Сакратар райкома тав. **Смірноў** сам падшукаў для газеты двух работнікаў. Але ўсё-ж дапамога райкома газеце малая.

Возьмем хоць-бы такі факт. Не паспеў рэдактар агледзецца, прыехаўшы ў новы раён, як райком ужо залічыў яго штатным упаўнаважаным па сельсоветах. Часта прыносяць т. Шатрукову паперкі з райкома з прапановай «неадкладна выехаць упаўнаважаным у сельсовет», а ў канцы грозна дадаецца: «за нявыезд будзеце прыцягнуты да суровай партыйнай адказнасці».

Што рабіць рэдактару? Не заўсёды злітуюцца ў райкоме на яго просьбы. Тады нічога не астаецца як ехаць на раён і пакідаць газету фактычна на аднаго зусім неквааліфікаванага работніка.

Калі-ж заняцца вучобай работнікаў рэдакцыі? Калі, нарэшце, падзаняцца самому? Без гэтага-ж нельга выпускаць палітычна вострую, жывую, культурную газету.

Натуральна, усе апісаныя ненармальнасці кладуць свой адбітак на якасць і змест газеты. Газета не асвятляе жыцця партыйнай арганізацыі раёна. Ні слова не знойдзеце ў капаткевіцкай газеце пра жывёлагадоўлю (Капаткевіцкі раён — жывёлагадоўчы), культпаход, выкананне сталінскага калгаснага статута.

Газеце «Бальшэвік» **трэба дапамагчы і дапамагчы неадкладна.** Дапамога павінна прыйсці ў першую чаргу з **райкома партыі.** Райком партыі абавязан прымусіць асобных раённых работнікаў паважаць раённую газету і справай дапамагчы ёй.

## АД РЭДАКЦЫІ:

**Мы змяшчаем пісьмы з новых раёнаў. У іх ускрываюцца выключна безадказныя адносіны раённых арганізацый да сваіх газет. Ва многіх новых раёнах кіраўнікі райкомаў і райвыканкомаў не зразумелі, або не хочуць зразумець, усёй складанасці і выключнай адказнасці работы раённай газеты.**

**У апараты асобных рэдакцый пралазяць класава-варожыя элементы, няма паліграфічнай базы, няма штодзённай дапамогі і канкрэтнага кіраўніцтва новаарганізаванымі раённымі газетамі і з боку райкомаў партыі.**

**Далей цярпець такога становішча нельга. Райкомы партыі і першыя іх сакратары абавязаны асабіста самі заняцца стварэннем нармальных умоў для работы рэдакцый, дапамагчы ім хутчэй пераджыць арганізацыйны перыяд (памяшканне, кадры, абсталяванне і інш.).**

**Нас здзіўляюць выключна безадказныя адносіны Белпаліграфтрэста да пытанняў узбраення тэхнічнай базай новаарганізаваных газет. Пара скончыць з гэтымі абураючымі адносінамі Белпаліграфтрэста. Кіраўнікі яго павінны зразумець, што партыя жорстка пакарае тых, хто зрывае нармальную работу газет ў новаарганізаваных раёнах.**

**Рэдакцыя звярачаецца з просьбай да ўсіх рэдактароў новаарганізаваных газет выступіць на старонках журнала і расказаць аб умовах і вопыце сваёй работы.**

# Там, дзе з самакрытыкай не ў ладах

*** В. КАВАЛЕВІЧ. ***

Рабочага механічнай майстэрні аршанскай ільночасальнай фабрыкі тав. **Гламаду** выбралі інспектарам аховы працы. З гэтага часу ён становіцца актыўным рабкорам — грамадчыкам. Напісаў тав. Гламада ў газету пра ўчотчыцу **Зарыфаву,** якая прысвоіла заводскае мыла, пра загадчыка механічнага цэха Кульбёнка, які ўвёў звышгадзінную працу. Не палюбілі за гэта Гламаду. **Кульбёнак** так і парашыў — Гламада ў майстэрні лішні. Трэба яго выжыць.

Адвярнуўся неяк Гламада на хвілінку ад варштата. У гэты момант яму наўмысна сапсавалі дэталь. Гэтага для загадчыка механічнага цэха Кульбёнка было даволі, каб завесці «справу» на рабкора.

Па пастанове заводскага камітэта **Гламаду пераводзяць вадаправодчыкам у пасёлак.**

Прайшло некалькі часу, і Гламаду **зноў перакідваюць у майстэрню.** Як і раней, ён бачыць у майстэрні паграджаючых размераў брак. Брак адных калец да прэса № 1 каштуе майстэрні 400 рублёў. Многія работы перарабляюцца па два-тры разы.

Але ў майстэрні знайшліся людзі, якія не могуць змірыцца з гэтымі злачынствамі. Гэта былі рабкоры: **Гламада, Кірыкаўскі, Сухадольскі.** Яны пішуць аб усіх агідпасцях у майстэрні ў насценную газету і патрабуюць рэагавання.

Не спадабалася Кульбёнку смелае выступленне рабкораў. У ход пускаюцца плёткі, ашуканства, нагаворы. Лепшых ударнікаў майстэрні—рабкораў шальмуюць, ставяць ім рагаткі на кожным кроку.

І ў выніку — актыўны грамадскі работнік, член КП(б)Б, рабкор тав. Кірыкоўскі, не вытрымаўшы здзекаў, пакінуў фабрыку. Пакінуў работу і Сухадольскі, якім кідаліся на фабрыцы як пешкай. На Гламаду таксама ўздзейнічалі — яго зноў перакінулі ў часальны корпус, туды, дзе ён працаваў спачатку і адкуль яго перавялі па прапанове доктара. І ў дадатак—яму панізілі разрад з 13 на 8-мы.

Так п'яніцы і прахадзімцы, засеўшыя ў кіраўніцтве ільночасальнай фабрыкі, расправіліся з рабкорамі. Дзе-ж быў заводскі камітэт? Ці ведаў ён аб гэтых злачынствах? Безумоўна, ведаў. Сам старшыня фабкома **Дрэндзель** дазволіў перавесці Гламаду з механічнай майстэрні ў часальны корпус, бо Гламада пісаў у газету пра адміністраванне і недахопы работы Дрэндзеля. А дзе быў рэдактар шматтыражкі, як ён абараняў актыўнага рабкора? У шматтыражцы ільнокамбіната **«За ўдарнае будаўніцтва»** змяшчаліся дзесяткі пісем тав. Гламады. Тут былі і пісьмы, выкрываўшыя злачынствы Кульбёнка, і пісьмы пра зажым самакрытыкі ў механічнай майстэрні, і пісьмы пра ганенне на Гламаду. Рэдактар шматтыражкі тав. **Касаткін** змяшчаў гэтыя пісьмы. А калі дайшло да абароны рабкора ад праследвання, ён апынуўся ў баку. Рабкор Гламада кінуў пісаць у газету і адмовіўся ад грамадскай работы.

Мы не апраўдваем паступак тав. Гламады. Як перадавы ўдарнік і актыўны рабкор, тав. Гламада павінен прадаўжаць сваю актыўную работу ў большэвіцкім друку. Пагрозы не павінны запалохваць рабкора. Непрымірымасць —адна з лепшых якасцей рабкора.

Але гэта ні ў якай меры не павінна апраўдваць абыякавых і безадказных адносін да справы абароны рабкора з боку парткома і рэдакцыі газеты, у якой актыўна ўдзельнічаў тав. Гламада.

# КАШТОЎНЫ ПАЧЫН

★ ★ ★ **Р. СІМХОВІЧ.** ★ ★ ★

На фабрыцы імя **Кагановіча** (Менск) у адным з цэхаў была выпушчана газета «Кракадзіл». Рабочыя з надзвычайнай цікавасцю групаваліся вакол новай газеты: яна ўся складалася з рысункаў і карыкатур з розных фактаў жыцця фабрыкі. Газета «Кракадзіл» заваявала такі аўтарытэт, што рабочыя другіх цэхаў прыходзілі чытаць яе. Тады рэдкалегія перанесла газету з цэха ў агульную сталовую.

Праз некаторы час газета спыніла выхад. Адразу ад рабочых і рабкораў пасыпаліся заметкі з пытаннямі «чаму не выходзіць «Кракадзіл?» Рабочыя прасілі аднавіць выхад газеты.



Карыкатура з насценгазеты «Рэзцом у бок»

Нарміроўшчыца закройнага цэха **Алер** рабіла многа прагулаў у час работы. Газета вострай карыкатурай у шасці позах паказала яе 7-гадзінны рабочы дзень. На Алер карыкатура вельмі моцна ўздзейнічала. Алёр пачала працаваць без прагулаў.

На заводзе імя **Варашылава** (Менск) у першай групе токараў выходзіць газета **«Рэзец»**. За ўдарную работу рэдактар гэтай газеты тав. **Платкоў** прэміраван шматтыражкай «Варашылавец» патэфонам. Газета заняла першае месца ў конкурсе насценных газет завода. Газета «Рэзец» характэрна тым, што яна аператыўна ўзнімае рад пытанняў вытворчай работы не толькі свайго цэха, але і другіх цэхаў. У кожным нумары газеты ёсць карыкатуры і рысункі. Загалоўкі маляўнічыя.

Рамонтна-інструментальны цэх пачаў адставаць. Ад яго залежыць выкананне плана такарнага цэха. Рэдкалегія першай групы токараў арганізавала выязную рэдакцыю ў рамонтна-інструментальны цэх і пачала выпускаць газету «Рэзцом у бок». Газета карыкатурамі паказвала работу рамонтнага цэха. Вось адна з карыкатур. У падвешанай на вяроўках шляпе, як у гамаку, сядзяць начальнік цэха **Коўбан**, механік завода **Гінзбург** і майстар цэха **Глайхенгауз**. Парторг-жа т. **Петч** і прафорг т. **Меергольд** раскачваюць начальства.

Або такая карыкатура. Рэдактары

насценгазет рамонтна-інструментальнага цэха тт. Левін і Грыншытэйн сядзяць у галошы. Яны не ўзнялі ў сваёй газеце пытання аб своечасовым выкананні заказаў другіх цэхаў, не паклапаціліся аб наладжанні інструментаў для двух цэхаў.

Няма патрэбы многа гаварыць аб сіле ўздзеяння гэтай карыкатуры. Досыць сказаць, што пасля выпуску газеты «Рэзцом у бок» быў склікан цэхавы сход па пытанню выканання заказаў такарнага цэха. Выяснілася, што рамонтнікі трымалі асобныя заказы па два гады (планшайбы, фрэза, шкафы). Праз кароткі час усе заказы былі выкананы. Заметка-ж у газеце была вельмі кароткая:

> **«Тт. рамонтнікі! Такарны цэх мае вялікую колькасць прастояў з-за недахвату неабходных інструментаў (цэнтра, апраўкі, фрэза для рэек). Такары зварачваюцца да вас і спадзяюцца, што ў бліжэйшы час вы выйдзеце з гэтага прарыву».**

Адна з карыкатур пад назвай «Тры токары... пробка адна» паказвала чаргу за пробкай. Пад карыкатурай подпіс: «Адзін точыць, другі просіць, трэці ў чарзе стаіць». Карыкатура паказвала наколькі інструментальны цэх затрымліваў прадукцыйнасць працы рабочых токараў. Гэта карыкатура прымусіла наладчыка цэха прывесці інструменты ў парадак. Убачыўшы вялікую дзейснасць газеты «Рэзцом у бок» у інструментальным цэху, рабкоры-токары выпускалі яе ў другіх цэхах, якія затрымлівалі работу такарнага цэха.



**Карыкатура з насценгазеты «Рэзцом у бок», якая б'е па непаладках у інструментальным цэху.**

Гэтыя невялічкія прыклады ярка паказваюць вялікую сілу і дзейснасць вострай карыкатуры ў нашых нізавых газетах.

Хто яны гэтыя карыкатурысты? Гэта рабочыя завода, рабкоры, члены рэдкалегіі. Яны даюць карыкатуры ў газету, яны робяць рысункі. Гэта мастакі-самавучкі. Як-жа арганізавана іх вучоба? Як кіруюць гэтымі людзьмі нашы шматтыражкі, цэнтральныя газеты, наш саюз мастакоў? Адказ на гэта мы атрымалі ад карыкатурыстаў і мастакоў фабрычна-заводскіх газет горада Менска на іх нарадзе ў рэдакцыі журнала «Бальшэвіцкі друк».

Рабкор-карыкатурыст тав. **Райхлін** з фабрыкі імя Кагановіча расказваў на нарадзе:

— Зраблю я карыкатуру, змесцяць яе ў газеце. Моцна б'е карыкатура па гультаю. Ён перавыхоўваецца. Аб карыкатурах у нас рабочыя гавораць у цэху, у сталовай, у ленкутку. Але аб іх ніколі не гаворыць фабрычная шматтыражка. Часта ў нас робяць агляды нізавых газет. Разбор паасобных заметак вучыць добра пісаць. Чаму-б па гэтаму прыкладу не рабіць агляд карыкатур, разбор іх? Няўжо мы, карыкатурысты, не тыя-ж самыя рабкоры, якіх трэба вучыць і выхоўваць, няўжо наша карыкатура не разіць гультая, балбатуна і лодыра так і нават лепш, чым рабкораўская заметка? Чаму-ж не вучаць нас як астрэй і правільней зрабіць карыкатуру для газеты? У нас ёсць саюз мастакоў. Ён зусім не дапамагае маладым карыкатурыстам. Трэба, каб мастакі-прафесіяналы прышлі на дапамогу рабочым мастацкім карэспандэнтам.

— Быў я на чатырохдзённых курсах рэдактараў і рабкораў, — гаварыў на нарадзе тав. **Хоміч** з завода імя Мяснікова. — Наведваў заводскі гурток рабкораў. Слухаў я там як размяшчаць матэрыял у газеце, як пісаць заметку, як весці работу з рабкорамі. А вось пра карыкатуру і работу з карыкатурыстамі нідзе я яшчэ не чуў. Сёння ўпершыню гавораць з намі. А на карыкатуры ў

нас хутчэй рэагуюць, чым на заметкі. Аб заметцы ў рэдакцыі шматтыражкі заўсёды скажуць, добра яна напісана ці дрэнна, а вось аб карыкатуры нічога не гавораць.

А вось што гаварыў на нарадзе рэдактар насценгазеты «Рэзцом у бок» тав. **Платкоў** з завода імя Варашылава:

— Часта склікаюць у нас рабкораў і рэдактароў. Гавораць аб мастацкім афармленні газеты. Аб тым, што рысунак, карыкатура і малюнічы загаловак прыцягваюць чытача да газеты. Але ніхто яшчэ не ўзнімаў пытання аб выхаванні пачынаючых мастакоў-карыкатурыстаў. Саюз мастакоў намі не цікавіцца, а рэдактар шматтыражкі гаворыць з намі толькі тады, калі трэба аформіць газету. Мы ўправе патрабаваць, каб аб нас клапаціліся, каб нас вучылі, каб нам указвалі на недахопы нашых карыкатур.

Такія выказванні саміх рабочых — мастакоў карэспандэнтаў.

Не трэба забываць, што класавы вораг вельмі часта імкнецца выкарыстаць карыкатуру ў сваіх мэтах. Таму мы не можам выпусціць з-пад увагі тых хто робіць карыкатуру і яе палітычную мэтаімкненасць, а павінны вучыць і клапатліва выгадоўваць іх.

Пара пазадумацца нашым газетам і саюзу мастакоў над пытаннем выхоўвання кадраў карыкатурыстаў і мастакоў на нашых фабрыках і заводах. На самой справе, чаму саюзу мастакоў не наладзіць кансультацый, лекцый, гутарак з пачынаючымі мастакамі-карыкатурыстамі? Чаму не арганізаваць персанальнае шэфства кваліфікаваных мастакоў карыкатурыстаў над пачынаючымі. Або, скажам, гурткі пачынаючых мастакоў і карыкатурыстаў на заводах і фабрыках. Можна знайсці рознастайныя метады кіраўніцтва гэтымі людзьмі. Гэтым павінны зараз-жа і сур'ёзна заняцца шматтыражкі, цэнтральныя газеты і саюз мастакоў.

# ПЕРШАЯ ЗОТАЎСКАЯ ШМАТТЫРАЖКА

★ ★ ★ **ФЛЯУМЕНБАУМ** ★ ★ ★

Тры гады назад віцебская швэйная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» сістэматычна не выконвала свайго плана. Рабочага і калгаснага спажыўца фабрыка снабжала адзежай — касцюмамі і польтамі — вельмі нізкай якасці.

У 1934 г. наступіў пералом. Упершыню фабрыка выканала свой гадавы план. І з таго часу **«Сцяг індустрыялізацыі»** ідзе ў радах перадавых прадпрыемстваў БССР. Усебеларускае народнае свята 11 ліпеня фабрыка сустрэла перавыкананнем вытворчага задання першай паловы 1935 г. Па плану трэба было выпусціць прадукцыі на 15.035.000 рублёў, а выпушчана на 15.150.000.

15 красавіка г.г. фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» стала прадпрыемствам суцэльнай тэхнічнай граматнасці, з 3.225 рабочых і работніц, здаўшых грамадска-тэхнічны экзамен, 3.157 здалі на «выдатна».

1 мая 1934 г. шматтыражка «Сцяг індустрыялізацыі» ў нарысе аб адной з першых зотавак фабрыкі пісала:

**«Люся Данчэнка баялася нават дакрануцца к педалі машыны. Ледзь яна націсне нагой педаль, як машына пяціць, верціцца, што Люся не ў сілах яе супыніць. Ламаюцца іголкі, рвуцца ніткі, машына строчыць не там, дзе трэба, якасць аперацый псуецца, рух канвеера на пенце затрымліваецца».**

Такіх як Люся Данчэнка на фабрыцы было некалькі тысяч. Пераважная большасць рабочых і работніц—моладзь, якая нядаўна прышла з вёскі і мястэчка. Яе трэба было навучыць добраякаснай рабоце пры машыне, пры ўцюгу, на ручных аперацыях.

На фабрыцы разгарнулася тэхнічная вучоба. Адразу адчулася роля фабрычна-заводскай газеты. Яна арганізуе рабочых на акуратнае наведванне заняткаў, газета змагаецца за высокую якасць вучобы, узнімае рад практычных пытанняў. Газета займаецца і комплексам

норм на значок «ЗОТ», і вучэбнымі праграмамі, і методыкай заняткаў, і нават такімі «дробязямі», як дапаможнікі, сшыткі і ручкі.

На 3, 4, 5 і 6 участках змены «А» касцюмнага цэха тэхнічная вучоба праходзіла нездавальняюча. Аб гэтым сігналізуе рабкор тав. **Шагалаў.**

Рабкорка т. **Ліўшыц** выявіла, што на 5 участку 1-й пінжачнай ленты тэхнічнай вучобай ахоплены толькі машыністы.

Па ініцыятыве рэдакцыі шматтыражкі ва ўмовы агульнафабрычнага конкурсу на лепшую сталінскую брыгаду быў уключан пункт, які абавязваў кожнага рабочага прайсці пэўны курс тэхнічнай вучобы. Права называцца брыгадай імя тав. Сталіна давалася толькі той брыгадзе, якая акрамя выканання іншых умоў стане брыгадай суцэльнай тэхнічнай праматнасці.

Газета ўзяла пад свой нагляд выкананне гэтага пункту ўмоў конкурсу. Шматтыражка ганьбіла рабочых і работніц, якія прапускалі заняткі, наладзіла праверку якасці тэхнічнай вучобы.

З самага пачатку разгортвання вучобы сустрэліся з радам труднасцей. Галоўная з іх заключалася ў тым, што па пытаннях тэхнікі швейных машын і тэхналогіі пашыва амаль не было ніякай спецыяльнай літаратуры. Тады рэдакцыя шматтыражкі рашыла выдаваць спецыяльную **«Тэхнічную газету».**

Выхад «Тэхнічнай газеты» рабочыя сустрэлі з выключнай цікавасцю. **Да ўдзелу ў газеце мы прыцягнулі тэхнічны персанал і найбольш кваліфікаваных старых рабочых.** Канкрэтныя і папулярна напісаныя матэрыялы аб універсальнай машыне і спецыяльнай машыне «Мадэль-7», аб электрычных і петаўскіх уцюгах, артыкулы на такія тэмы, як «Пракладка кромкі», «Стачванне бакавых швоў», «Апрацоўка жылета» і т. п. — з'явіліся незамянімым дапаможнікам для рабочых, якія займаліся ў тэхгуртках. Гэтыя матэрыялы былі багата ілюстраваны клішыраванымі чарцяжамі і рысункамі.

**За пасляховую работу ў барацьбе за аўладанне тэхнікай шматтыражка «Сцяг індустрыялізацыі» ўзнагароджана ганаровым значком «ЗОТ».** Гэта вялікі гонар для газеты. Высокая ўзнагарода, якую заслужыла шматтыражка сваёй барацьбой за аўладанне тэхнікай, з'яўляецца ўзнагародай для ўсіх рабкораў і рабочых фабрыкі.

---

# ДЭПУТАТЫ МЕСТСОВЕТА СТАЛІ АКТЫЎНЫМІ РАБКОРАМІ

**★ ★ ★ НАУМЕНКА ★ ★ ★**

**Рабкор-машыніст дэпо ст. Асіпавічы, кіраўнік дэпутацкай групы месТсовета.**

Дэпутацкая група, якой я кірую, налічвае 33 чал.

Для таго, каб ахапіць групай усе звенні і ўчасткі работы, мы разбілі яе на 8 брыгад.

Кожная брыгада мае пэўны ўчастак работы. Рамонт паравозаў, барацьба з крушэннямі і аварыямі, учот соцыялістычнага спаборніцтва, падрыхтоўка кадраў, зарплата і соцыяльна-бытавыя пытанні, аўладанне тэхнікай, работа школы і эканомія апалу,—усё гэта пытанні, якімі займаецца дэпутацкая група.

Брыгадзіры складаюць бюро па кіраўніцтву работай усёй групы. Пры дапамозе такога бюро мы маем магчымасць лепш правяраць работу кожнага брыгадзіра, перадаваць вопыт работы адной брыгады другой. Члены дэпутацкай гру-

ны актыўна ўдзельнічаюць у насценгазеце дэпо «Рэгулятар».

Дэпутат **Фрэнкель**—адказны за работу па разгортванню соцспаборніцтва, з'ўляецца і членам рэдкалегіі. Ён сістэматычна асвятляе ход соцспаборніцтва ў газеце «Рэгулятар», актыўна ўдзельнічае ў газетах «Ударнік» і «Палітаддзелец».

Дэпутат-рабкор **Пазнякоў П.** дае праз газету тэхнічныя ўказанні рабочым і не дапускае тэхнічных непаладкаў на вытворчасці. Калі наша дэпутацкая група праводзіла работу па падрыхтоўцы да ўсенароднага свята вызвалення БССР ад белапалякаў, рабкор-дэпутат **Валько Владзімір** узяў на сябе абавязацельствы праверыць тормазныя прыборы на ўсіх паравозах нашага парка.

Словы яго ператварыліся ў канкрэтныя справы. Узятае абавязацельства т. **Валько** выканаў. Праверыў тормазныя прыборы і кожны заўважаны ім недахоп адразу-ж выкараняўся.

Рабкор **Чарочка** папярэдзіў крушэнне на ст. Асіпавічы, рабкор **Позняк** выратаваў ад аварыі грузавую аўтамашыну, якая ледзь не папала пад поезд. Мне самому ўдалося папярэдзіць крушэнне поезда на ст. Уборак.

Рабкоры насценгазеты «Рэгулятар» і асабліва дэпутацкай групы добра ўявілі загад наркома т. Кагановіча аб барацьбе з аварыямі і крушэннямі.

# „Тэхнічная газета—мой лепшы памочнік"

Я працую ў касцюмным цэху фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі». **«Тэхнічная газета» — мой лепшы памочнік на адказнай аперацыі па выметцы лацканаў у пінджаках.** Тут патрэбна не толькі рабочая смекалка, а і веды, уменне. І ў гэтым мне значна дапамагае наша газета.

Пры дапамозе сваёй «Тэхнічнай газеты» я вывучаю правілы выканання не толькі сваёй аперацыі, але і правілы выканання другіх аперацый. Напрыклад, газета ў адным з нумароў расказала як трэба рабіць праточку лістачак у пінджаку, разутюжку падбортаў, як правільна выраблядь бакавую кішэню. Праз газету я даведалася і што такое каркаскія петлі, і як іх правільна апрацоўваць.

Зараз я зотаўка-выдатніца. Выконваю сваю аперацыю на выдатна. Але бываюць выпадкі, калі той ці іншы рабочы па ўважлівай прычыне не з'явіцца на работу. Тады я смела замяняю яго, бо я пры дапамозе «Тэхнічнай газеты» аўладала аперацыямі сумежных брыгад.

Што па маёй думцы трэба зрабіць нашай тэхнічнай газеце для яшчэ большага ўздыму кваліфікацыі рабочых?

Першае — гэта стварыць брыгады з лепшых зотаўцаў, для сістэматычнай праверкі ажыццяўлення ўсіх указанняў тэхнічнай газеты. Вынікі гэтай праверкі трэба шырока асвятляць у газеце. Па-другое, наша «Тэхнічная газета» павінна шырэй асвятляць пытанні ўкаранення вопыту мещчынцаў і далейшай вучобы зотаўцаў. Усё гэта дасць магчымасць выпускаць прадукцыю яшчэ больш высокай якасці.

**ПІЛЕВІЧ ДОРА,** —

**работніца ф-кі «Сцяг індустрыялізацыі».**



**Газета на ўборцы.**



Рабкоры завода імя Варашылава ў новаадчыненым заводскім габінеце друку (Менск).

# Першы заводскі габінет друку

Яшчэ на III усебеларускім з'ездзе рабсельваенкораў было ўзнята пытанне аб разгортванні сістэматычнай вучобы рэдактара нізавой газеты і рабкора, аб арганізацыі спецыяльных габінетаў друку для рабкораў.

Доўга марылі аб сваім габінеце друку рабкоры і рэдактары менскага машынабудаўнічага завода імя Варашылава. Нарэшце іх мары збыліся. 18 ліпеня пры актыўнай дапамозе заводскай шматтыражкі «Варашылавец» у клубе металістаў быў адкрыт рабкораўскі габінет друку.

Мы ўвайшлі ў габінет. Пакой упрыгожан партрэтамі правадыроў Леніна і Сталіна. На фоне белага палотнішча паказан завод, воддаль нарысаваны кнігі—сімвал барацьбы за вывучэнне твораў Маркса — Леніна—Сталіна. На чырвоным палотнішчы стракацяць загалоўкі цэнтральных газет і журналаў. Тут-жа вісіць і дошка, на якой вывешваюцца добрыя і дрэнныя цэхавыя газеты.

Кожны рэдактар газеты зможа тут павучыцца як трэба выпускаць газету.

Побач з выстаўкай заводскага нізавога друку на спецыяльнай дошцы раскладзены кнігі, вывешаны выразкі з журналаў з парадамі як трэба па-мастацку афармляць газету, як рабіць карыкатуру і рысунак.

Габінет друку мае бібліятэку з творамі Леніна, Сталіна, Горкага. Столікі з прыладамі для афармлення насценгазет і заметак, шахматы, шашкі, добрыя дываны для адпачынку і вялікі прыбраны пісьмовы стол. На падлозе разаслан кавёр. Габінет чысценька прыбраны і ўтульны.

Рабкоры і рэдактары **Махлін, Платкоў, Івачовіч, Эльтэрман, Грыфштэйн, Мятліцкі** і іншыя радасна сустрэлі адкрыццё доўгажаданага габінета друку.

— Зараз рабкору і рэдактару будзе

дзе папрацаваць і над сабой,—гаварылі яны. Патрэбна толькі добра арганізаваць работу габінета.

Рабкор **Бляхер** у сваім выступленні пры адкрыцці габінета друку звярнуў асаблівую ўвагу на работу з маладымі рабкорамі і на барацьбу за дзейснасць кожнага пісьма рабочага.

На адкрыцці габінета ў прысутнасці сакратара парткома **Айзмана** зацвердзілі план работы. План прадугледжвае: арганізацыю семінара рэдактароў нізавых газет і рабкораў, гуртка карыкатурыстаў і фотааматараў. У плане работы прадугледжваецца правядзенне гутарак і кансультацый рабкорам і рэдактарам нізавых газет.

У бліжэйшыя дні габінет друку арганізуе культурны дзень адпачынку рэдактара і рабкора. Там будуць арганізаваны гульні, выпуск вуснай газеты, чытка навейшай літаратуры, фізкультурныя выступленні і інш.

Адкрыццё ў Менску першага заводскага габінета друку мае велізарнае значэнне ў справе выхавання рэдактара нізавой газеты, рабкора-аўтара-карэспандэнта заводскай шматтыражкі і цэнтральнага друку. Гэту ініцыятыву заводскай шматтыражкі «Варашылавец» трэба вітаць.

Першаму ў Менску заводскаму габінету друку патрэбна зараз і практычная дапамога работнікаў цэнтральнага друку БССР.

**Р. С.**

### У ЗАВОДСКІМ ГАБІНЕЦЕ ДРУКУ.



Рэдактар насценгазеты «Разец» тав. Платкоў (у сярэдзіне) грае ў шашкі з рабкорамі завода.

Крытычныя заметкі

# Аб агітацыі за культуру і граматычных памылках

Вельмі добра, што газета **«Прымежны калгаснік»** з прыездам новага рэдактара тав. **Бермана** занялася пытаннямі культурнага абслугоўвання насельніцтва раёна. Надрукаваны ў нумары за 25 ліпеня «Прымежнага калгасніка» фельетон **«Пра тратуары, квас і многа іншага»** гаворыць аб тым, як мала ўвагі аддаюць гэтаму пытанню ў Ушачах. Няма сумнення, выступленне газеты зробіць сваю справу.

Але нас асабліва зацікавіла адно пытанне: чаму фельетон, які горача агітуе за культуру і культурнасць, напісан так некультурна і бязграматна?

Слова «наплявацельскія», напрыклад, надрукавана так: **«наплівацельскія».** Замест «седзячы на лаўцы», «не падаючы духам» надрукавана: **«седзя на скамейцы»**, **«не падая духам».** Замест «будзьце» — **«будце».** Надрукавана: **«у бульвары»** замест агульнапрынятага — **«на бульвары».** А слова «непрыступнай» раскалолі **«не прыступнай».**

Не будзем спыняцца на стылістычных памылках і недакладнасцях, якіх таксама многа ў гэтым, так званым «фельетоне».

У тым жа нумары газеты, у артыкуле **«Ліквідаваць адставанне калгаса «Пралетарый»**, ёсць такое месца:

**«У чым прычыны нізкіх тэмпаў сэнаўборкі? Прычыны ў адсутнасці працоўнай дысцыпліны, неарганізаванасці работ, ураўнілаўцы ў аплаце».**

Выходзіць, па газеце, што нізкія тэмпы ўборкі сена тлумачацца... адсутнасцю неарганізаванасці работ і ўраўнілаўкі. А падвяла толькі адна літара **«у»**, якую трэба было паставіць пасля слова «дысцыпліны».

Вернемся к пачатку. Ці сумяшчальны ў газеце агітацыя за культуру і няграматныя артыкулы і загалоўкі? Ва ўсякім выпадку, трэба прызнаць, што аўтарытэт і дзейснасць гэтай агітацыі вельмі малыя.

Мы гаворым: агітацыю за культуру на вёсцы трэба пачынаць з прывядзення ў культурны выгляд канцэлярыі сельсовета, праўлення калгаса, кватэры вясковага комуніста і комсамольца. Тое-ж самае трэба патрабаваць і ад раённай газеты. Газета, агітуючы за культуру, павінна паказаць сама ўзор культурнасці, граматнасці ў падачы матэрыялу. Не трэба забываць, што граматная, культурная газета ўжо сама па сабе з'яўляецца магутным сродкам агітацыі за культуру.

# Няўдалы верш

У класах лагойскай сямігодкі незвычайнае ажыўленне. Заўтра канчаюцца заняткі і вучні ідуць у адпачынак. Група вучняў адчувае сябе імяніннікамі — гэта выпускнікі. Яны скончылі школу. І колькі магчымасцей далейшай вучобы і работы адкрыта перад імі! Ім — асаблівая ўвага, ім паціскаюць рукі, жадаюць поспехаў. Мінута ўрачыстая...

У самы разгар урачыстасці ў школу прыносяць нумар раённай газеты **«Чырвоная Лагойшчына».** Раённая газета не асталася роўнадушнай да свята дзяцей. Цэлая старонка газеты прысвечана выпускнікам.

Не так часта «Чырвоная Лагойшчына» балуе дзяцей сваёй увагай, а тут — цэлая старонка! І нават верш — «Шчаслі-

вай дарогі» прысвечан ім — выпускнікам. Выпадак, можна сказаць, гістарычны...

Вучні накідваюцца на нумар газеты, прагна чытаюць матэрыялы, прысвечаныя выпускнікам, чытаюць верш і... раптам сціхае ўсеагульнае ажыўленне. Апусціўшы вочы, вучні разыходзяцца па класах, на тварах дзяцей сарамлівая чырвань.

Вучням стала сорамна за рэдакцыю, якая парадавала іх к святу бяздарным і няграматным «вершам» «Шчаслівай дарогі».

Што-ж, лагойскім вучням трэба толькі паспачуваць: верш «Шчаслівай дарогі» сапраўды з тых, пра якія гавораць: бываюць горшыя, але рэдка. Вось месца з гэтага верша:

**«Слаўнай**
**Вучобы урокаў**
**Пройдзен**
**Змагання**
**Ваш**
**Шторм».**

І спрактыкаванаму лінгвісту паўрад ці ўдасца высвеціць, што павінны азначаць гэтыя абрыўкі нейкіх асабліва ўсхваляваных думак. Дзе там зразумець гэтыя словы семнаццацігадовым юнакам, якія прывыклі ў школе да граматыкі, правіл дапасавання і кіравання слоў у сказе, прывыклі будаваць сказы так, каб можна было зразумець іх сэнс!

У другім месцы верша сказана так:

**«Першыя крокі**
**Разбегаў**
**Квітнеючых дзён...**

...і т. д. і т. д. Адзін радок верша варты другога і ўвесь верш не вытрымлівае ніякай крытыкі ні з пункту гледжання стылю, ні з пункту гледжання элементарнай граматнасці.

**А. Ле.**

# Пра сакавіцкае сонца і рэдактара Шэндаровіча

Некаторыя фабрычна-заводскія газеты БССР, пераняўшы вопыт работы лепшых заводскіх газет Масквы і Ленінграда, пачалі друкаваць заводскую хроніку, змяшчаць вершы, нарысы і фельетоны. Жывей пачалі выглядаць старонкі шматтыражак.

Рабочы з вялікай ахвотай чытае ў сваёй газеце верш, нарыс, фельетон. Але мы бачым, як побач з ростам патрабаванняў да пашырэння тэматыкі, у сённяшняга чытача большэвіцкай газеты ўзраслі і вымаганні да якасці падаваемых яму матэрыялаў. Зрабіць газету жывой, высока-культурнай і палітычна завостранай — справа надзвычай адказная.

Газета **«Кіравец»** Менскага станкабудаўнічага завода імя Кірава змясціла нядаўна нібы нарыс аб экскурсіі адзінаццаці лепшых ударнікаў завода ў Маскву. Вось як перадае іх уражанні аб прыгожай і культурнай сталіцы СССР тав. Гольман у сваім нарысе «Шэсць дзён у Маскве».

**«Сакавіцкае сонца сустрэла нас ветліва сярод шумных гудкоў аўтамабіляў, тролейбусаў і звону трамваяў, яна — Масква, абнімае нашы твары, прабіраецца праз адзежу і саграває нашы плечы». (Падкрэслена намі. — РЭД).**

Цяжка, таварышы, з «Кіраўца» ўявіць сабе такі горад, які-б мог прабрацца праз адзежу 11 чалавек. З такім «вобразам» бадай ні адзін з экскурсантаў не згодзіцца. Экскурсанты бачылі вялікую культурную і прыгожую сталіцу СССР. Яна абагаціла іх новымі ўражаннемі сваёй радзімы. Вобраз-жа Гольмана яўна зніжае тэта.

# Выпадак у загадчыка комгаса

У адну прыгожую чэрвеньскую раніцу—як пішуць у раманах—загадчык комгаса Ельскага райвыканкома скромны таварыш **Каленік** падняўся з пасцелі, апрануўся і пашоў на работу.

Свяціла сонца, пялі птушкі, пахнулі кветкі... У адказ на прыгожасці прыроды шырока ўсміхаўся твар т. Каленіка. Яму захацелася хутчэй убачыць знаёмых, таварышоў па рабоце, сказаць ім нешта адменна прыемнае, зрабіць падарунак, пачаставаць нечым смачным...

Але што гэта? З-за вугла вышаў стары прыяцель і, як толькі ўбачыў Каленіка, шарахнуўся ў старану і хуценька пабег на другі бок. Уперадзе паказаліся яшчэ два знаёмыя. Не даходзячы крокаў дваццаць да Каленіка, яны звярнулі на другі бок вуліцы. Хутка т. Каленік заўважыў суправаджаючую яго гурбу дзетвары. Дзеці забягалі наперад і заглядалі Каленіку ў вочы.

— Што за ліха? Што здарылася?—зашаптаў бедны загадчык комгаса, і халодны пот выступіў на яго спіне.

Нарэшце, бедняга злаўчыўся, злавіў за рукаў саслужыўца і запытаўся:

— У чым справа? Чаму ўсе ўцякаюць ад мяне?

Саслужывец выцягнуў з кішэні свежы нумар раённай газеты **«Бальшэвіцкі змагар»** за 3 чэрвеня і вымавіў:

— На, чытай... фельетон «За вамі лічыцца нядоімка».

Так, у фельетоне, як гавораць цяпер у Ельску, чалавека з граззю змяшалі. Бойкі фельетаніст **Віт С.** на працягу каля паўтараста радкоў прыклаў усе свае намаганні і здольнасці для таго, каб пазбавіць т. Каленіка ўсякага чалавечага дастоінства.

Спачатку ў фельетоне Каленік называецца «знахарам», які «за пяць-дзесяць год уперад ведае». Далей фельетаніст са здзіўляючай асвядомленасцю даводзіць, што Каленік толькі «да апошняга часу быў нармальным чалавекам». А цяпер? Цяпер у яго «з розумам не ўсё ў парадку». І т. д., і т. д. Многа можна напісаць у паўтараста радках!

У чым-жа ўсё-ж такі справа? За што чалавека б'юць? За што называюць у савецкай газеце знахарам, ненармальным, вар'ятам? За што? Што натварыў гэты чалавек?

А справа, аказваецца, так была. Прыязджае ў Ельск «новы работнік». Хто такі гэты «новы работнік», фельетаніст трымае ў сакрэце. Размяшчаецца гэты новы работнік у кватэры, наводзіць парадак, утульнасць. Нарэшце, пасля трудоў праведных, кладзецца на канапу адпачываць. І ў гэты час яго спакой парушаецца: у кватэру ўваходзіць кур'ер райвыканкома і падае такую паперку:

> **«За Вамі лічыцца нядоімка па кватэрнай плаце за 1935 год па становішчу на 1 мая 1935 года ў суме 10 руб. 50 кап. Грошы ўнясіце на рахунак РВК ў Ельскае аддзяленне Дзяржбанка.**
>
> **Загадчык комгаса КАЛЕНІК.»**

Паперка, як сцвярджае фельетаніст, прыслана памылкова, бо «новы работнік» не пражыў у кватэры і месяца. Вось і ўся гісторыя,—гісторыя, не вартая выедзенага яйка. Але гэтага аказалася дастаткова для таго, каб з граззю на старонках раённай газеты змяшаць сумленнага работніка, рабочага-вылучэнца т. Каленіка.

Цяпер раскрыем сакрэт, які ўтоіў ад чытачоў фельетаніст. «Новы работнік», да глыбіні душы «пакрыўджаны» Каленікам, ён жа аўтар фельетона «За вамі лічыцца нядоімка,»—ні хто іншы, як сам рэдактар ельскай раённай газеты **Віт. Сідарук.**





# Ці толькі пісьманосец вінават?

**«Толькі 3000 экземпляраў раённай газеты трэба рэалізаваць нашаму раёну па данаму заданню. Аднак і гэта заданне мы з месяца ў месяц не выконваем. На ліпень месяц, напрыклад, падпіска на раённую газету складала ўсяго 1710 экземпляраў».**

Гэтай слёзнай скаргай пачынаецца артыкул «Выканаць кантрольнае заданне» ў газеце **«Калгаснік»** (Лоеў) за 24 ліпеня 1935 года. Апрача памянёнага артыкула ў гэтым-жа нумары змешчаны зводка ходу падпіскі на газету «Калгаснік» і велізарны «спіс зрыўшчыкаў падпіскі». Гэтыя матэрыялы занялі ў газеце роўна дзве калонкі зверху данізу.

На каго-ж скардзіцца рэдакцыя на тое, што з дня на дзень радзеюць рады падпісчыкаў газеты «Калгаснік»? Пазвішчы вінаватых дакладна ўказаны. Хто-ж яны, гэтыя вінаватыя? Гэта інструктар райбюро «Саюздруку», гэта паштовыя агенты і сельскія пісьманосцы і іншыя «стрэлачнікі» ў справе распаўсюджвання раённай газеты. Гэта, нарэшце, «кіраўнікі сельсоветаў, якія не лічаць сваім абавязкам займацца гэтым пытаннем».

**У ганебны** спіс «зрыўшчыкаў падпіскі» і «адстаючых» рэдакцыя занесла адразу **дваццаць шэсць** паштовых агентаў і пісьманосцаў **пятнаццаці** сельсоветаў. Паведамім, што ўсіх сельсоветаў у Лоеўскім раёне **шаснаццаць.**

Па думцы рэдакцыі, выходзіць, што ўсе пісьманосцы раёна і кіраўнікі сельсоветаў—сабатажнікі, якія толькі і займаюцца, што зрываюць падпіску на газету «Калгаснік». Проста, змова пісьманосцаў супроць рэдакцыі дый толькі!

Рэдакцыя не скупіцца на моцныя слоўцы па адрасу «змоўшчыкаў» і канчае артыкул катэгарычным патрабаваннем: **«Вінаватыя ў зрыве падпіскі на раённую газету павінны панесці суровае пакаранне».**

Звернемся з пытаннем да гарачых галоў з рэдакцыі «Калгаснік» **ці толькі пісьманосец вінават?** Ці не гаворыць той факт, што газета з дня на дзень губляе чытачоў, і аб **якасці гэтай газеты,** аб сувязі і рабоце газеты з **масамі, з селькорамі?**

Рэдакцыі лоеўскай газеты указвалася на тое, што газета робіцца дрэнна, што яна не масавая, няграматная, запоўненая сухімі, нечытэльнымі матэрыяламі. Прыкметнага паляпшэння якасці газеты не відаць і па гэты дзень. Ці не ў гэтым, тав. Казлоў (рэдактар «Калгасніка») і ёсць **галоўная прычына** «зрыву падпіскі на раённую газету?»

# Пра „добрых дзядзькоў" з „Комунара Магілёўшчыны"

Каля паўгода назад у «Большэвіцкім друку» (№ 23, снежань 1934 г.) надрукован артыкул **«Раённая газета, як яна была і як ёсць».** У гэтым артыкуле выкрыты прадзелкі вядомага халтуршчыка і п'яніцы Алеся **Чарняўскага** ў час яго «работы» ў газеце «Калгаснік Талачыншчыны». Няма патрэбы цяпер зноў успамінаць пра гэта.

З Талачына Чарняўскага прагналі. Некалькі месяцаў гэты прахадзімец рабіў «турнэ» па раёнах БССР, адшукваючы новае «даходнае месца» і «добрых дзядзькоў», якія далі-б яму магчымасць халтурыць. «Добрыя дзядзькі» знайшліся ў Магілёве ў рэдакцыі «Комунар Магілёўшчыны».

І Чарняўскі стаў выяўляць свае «здольнасці». Карыстаючыся асаблівымі міласцямі рэдактара, ён змяшчае ў асобных нумарах па чатыры-пяць сваіх матэрыялаў, большасць якіх заведамая халтура і хлусня.

Праз некаторы час выявіліся і другія «странности» Чарняўскага. Ён пачаў запоем піць. Раз за разам прыходзіў у рэдакцыю ў п'яным выглядзе.

Тады рэдактар Іофе выдаў «мудры» загад, па якому Чарняўскаму было прапанавана знаходзіцца ўвесь час на раёне і адтуль прысылаць матэрыялы ў газету. Цяпер Чарняўскі бязвыездна сядзіць у Вендараскім сельсовеце, наладжвае папойкі і піша «нарысы» ў «Комунар Магілёўшчыны».

**Я. АЛІСІМЧЫК—работнік «Комунара Магілёўшчыны».**

